



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12 чэрвеня 2020 года №24 (1311)

18+




## Вяселлі ў пандэмію спраўляюць, але больш сціпла

старонкі 5

ISSN 1991–7155

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Мы сабралі выслоўі пра гарады і вёскі нашага рэгіёна. А вы чулі такія?



# Чаму ў Вілейцы ўсё па капейцы

старонка 17

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# «У панядзелак працаваў у летніку, а ў суботу даведаўся пра каронавірус»

## Жыхар Астравеччыны расказаў, як захварэў на COVID-19

АСТРАВЕЦ

**Да нас звярнуўся настаўнік, жыхар Астравеччыны. Мужчына пажадаў застацца невядомым (імя і прозвішча ёсць у рэдакцыі). У суботу, 6 чэрвеня, у яго пацвердзіўся тэст на каронавірус.**



Наш герой выконваў засцерагальныя працэдуры, але каронавіруса не пазбегнуў.

Мужчына працуе настаўнікам у адной з мінскіх школ. Хвалюецца, што ў суботу пацвердзіўся дыягназ, а да гэтага, у панядзелак, ён праводзіў зарадку ў лагеры, куды сабралі дзяцей з шасці школ – 80 чалавек.

– Хай мой расповед будзе споведдзю хворага на каронавірус, – кажа мужчына і расказвае, як усё пачыналася.

### Чакаю сераду, чацвер. Ніхто не едзе тэст рабіць

Калега, з якім наш суразмоўца разам працуе ў школе, стаў адчуваць сябе дрэнна, паднялася тэмпература. У яго – маленькае дзіця і цяжарная жонка. Баючыся за сям'ю, знайшоў магчымасць зрабіць тэст. Каронавірус пацвердзіўся.

– Калега хварэе ўжо два тыдні. Апошні дзень адпрацаваў 26 мая, і больш я яго не бачыў, – распавядае мужчына.

Кажа, што яму патэлефанаваў дырэктар школы і запытаўся, ці будзе ён здаваць тэст як кантакт першага ўзроўню. Жыхар Астравеччыны пагадзіўся. А калегі, па яго словах, адмовіліся, хоць сядзелі ў адным кабінеце з хворым. Маладыя настаўнікі, па 24 гады, сказалі, што добра сябе адчуваюць.

На каранцін мужчына паехаў да сябе дамоў, на Астравеччыну. Дырэктар школы патэлефанаваў галоўнаму доктару мясцовай бальніцы.

### Страшна, бо паміраюць здаровыя мужчыны

– Я прыехаў дамоў у сераду. Чакаю сераду, чацвер, ніхто не едзе да мяне. Пасля сам патэлефанаваў у бальніцу галоўнаму доктару, пытаюся: чаму так? Я ж кантакт першага ўзроўню? А доктар кажа: не хвалюйся, – расказвае хворы.

Прызнаецца, што яму сапраўды было страшна, бо сярод яго знаёмых ужо памерлі некалькі мужчын.

– Праз некалькі гадзін пасля майго званка прыехалі медыкі з Астраўца, зрабілі тэст. У суботу зноў прыехалі. Сказалі, што тэст пацвердзіўся. Вельмі добра аднесліся. Спыталі, якія будуць просьбы. Я папрасіў КТ. Мне не адмовілі – працягвае суразмоўца. – Да гэтага, у пятніцу, мне было вельмі дрэнна. Тэлефанаваў «у хуткую». Прыехала доктар, выпісала сродак ад кашлю і антыбіётык. Але я не мог набыць лекі адразу. Бо чамусьці нашу аптэку ў Міхалішках надумаліся рамантаваць падчас пандэміі. У бальніцы зрабілі медыцынскі кіёск, але ён не працуе ў выхадныя. А я ж пра хваробу ў суботу даведаўся. Толькі ў панядзелак сусед змог усё купіць. Каб аптэка працавала, дык я да гэтага б часу ўжо тры дні паспеў палячыцца, і мне б палепшала. Больш купіць лекі няма каму. Я жыву адзін, жонка памерла, дзеці жывуць асобна. Крыўдзіць тое, што ніхто з мясцовай бальніцы не тэлефануе, не цікавяцца, як я сябе адчуваю. Хоць доктар, якая прыходзіла ў пятніцу, абяцала, што будзе тэлефанаваць штодзень. А тут ужо і выхадныя прайшлі, і новы тыдзень пачаўся.

Хворы мяркуе, што, можа, каронавірус ён ужо перахадзіў на нагах. Кажа, на пачатку тыдня было вельмі дрэнна – слабасць такая, нібыта пяцьдзясят кіламетраў прабег. Быў таксама кашаль. Абанянне і смак не знікалі. Але апетыту не было. Пяць дзён не еў нічога.

Мужчына расказаў, што ўжо будучы хворым, ехаў на машыне разам са сваім добрым знаёмым. Цяпер знаёмы таксама стаў кантактам першага ўзроўню. У яго ўзялі тэст, але вынікаў пакуль няма. Адчувае сябе нядрэнна, аднак хвалюецца і за сябе, і за сям'ю.

У аўторак, 9 чэрвеня, нашаму суразмоўцу зрабілі КТ у Астравецкай ЦРБ. Даследаванне паказала двухбаковую пнеўманію. Цяпер ён лечыцца ў бальніцы ў Астраўцы.

### Галоўны доктар: тэст – толькі пасля афіцыйнага паведамлення з Цэнтра эпідэміялогіі

Мы патэлефанавалі ва ўчастковую бальніцу той мясцовасці, дзе жыве наш герой. Галоўны доктар паведаміў, што каронавірус сапраўды ёсць у вёсцы. Адзін чалавек ужо перахварэў, другі хварэе. Абодва – дома, а не ў бальніцы.

– Каронавірус паводзіць сябе вельмі па-рознаму, – кажа доктар. – Можа праходзіць бессімптомна. І гэта небяспечна: чалавек добра сябе адчувае, усюды ходзіць. Часта нават не носіць маску. Добра, калі ў гарадах 30% у масках.

Па словах доктара, інфармацыя пра тое, што чалавек з'яўляецца кантактам першага ўзроўню адразу прыходзіць у санстанцыю. Там праводзяць эпідэміялагічнае расследаванне: высвятляюць, з кім чалавек кантактаваў, каго мог заразіць. Спісы падаюцца ў Астравецкую ЦРБ. Пры ЦРБ створаныя так званыя кантактныя групы медыкаў. У кожную брыгаду ўваходзіць доктар, медсястра, фельчар і кіроўца. Яны апранаюць спецыяльныя касцюмы і працуюць з кантактамі першага ўзроўню. Выязджаюць дадому, аглядаюць пацыента, бяруць мазкі.

Узяць такі тэст могуць толькі ў таго, хто ёсць у афіцыйных спісах. Калі чалавек сам кажа, што ён кантакт першага ўзроўню, гэта не прычына.

– Шпіталізаваць ці не, вырашаюць, гледзячы на стан хворага. Калі стан здавальняючы, хворы крыху кашляе, у бальніцу яго адразу не кладуць. Да таго ж, можа вынік тэста будзе адмоўны, а чалавека ў бальніцу пакладуць, – тлумачыць доктар.

Згодна з загадам Міністэрства аховы здароўя, калі пацыент адчувае сябе здавальняюча, ён знаходзіцца дома, пры патрэбе атрымлівае мінімальнае лячэнне. У кожнага з такіх пацыентаў ёсць пісьмовыя медыцынскія рэкамендацыі. Хворы распісваецца за тое, што будзе іх выконваць. У рэкамендацыях адзначана, што калі стан пагоршыцца, неабходна выклікаць «хуткую». Калі ж хворы дома, агляд павінны праводзіцца ў вызначаныя дні.

– Зразумейце, сістэма не такая: што чалавек сам вырашыў – абследуйце мяне. І яго будуць абследаваць. Усё вызначана, адладжана, усё працуе, – падсумаваў доктар.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# На чым эканомяць немцы і чаму ў іх варта павучыцца нам

**Вам даводзілася чуць, што немцы – самы эканомны народ у Еўропе? Давайце разбяромся, на чым эканомяць жыхары Германіі і ці варта нам павучыцца эканоміі ў іх.**

Як паказваюць апытанні, сярэднестатыстычны жыхар Германіі аддае перавагу таму, каб жыць эканомна, а ўсё лішняе адкладаць пра запас.

### Прыватныя назапашванні – на рэкордным узроўні

Чаму немцы адкладаюць пра запас? Ёсць некалькі прычын. Першая – імкненне сабраць суму, неабходную для ажыццяўлення буйных затрат, напрыклад, куплі аўтамабіля.

Другая – жаданне мець прыстойны рахунак у банку і жыць у сваё задавальненне нават у састарэлым узросце – важны фактар для збераджэнняў. Трэцяя – задума купіць нерухомасць або зрабіць рамонт у доме. Згодна з даследаваннямі, у Германіі асабліва любяць эканоміць жыхары Ніжняй Саксоніі і Брэмена. Менш за ўсё людзей, якія адкладаюць грошы на чорны дзень, у Гамбургу і Берліне. Іх крыху больш за 60 працэнтаў.

Як паказваюць сацыялагічныя апытанні і статыстыка, кожны другі немец штомесяц адкладае пэўную суму. Прычым асаблівую перавагу для назапашвання грошай аддаюць класічнай ашчадкніжцы. Нават не глядзячы на вельмі нізкія працэнтныя стаўкі па ўкладах. Грамадзяне Германіі аддаюць перавагу рабіць інвестыцыі, не звязаныя з вялікай рызыкай.

Надзейнасць і гнуткасць укладаў значна важней для немца, чым іх прыбытковасць. Таму прыватныя назапашванні фізічных асоб у Германіі дасягнулі рэкорднага ўзроўню. У сярэднім, немцы адкладаюць не менш за дзесяць працэнтаў ад ста еўра.



Вада – тое, на чым эканомяць немцы.

### Даходы і выдаткі

У Германіі папулярным інструментам забеспячэння старасці з'яўляюцца не толькі рахункі ў банках, але і інвестыцыі ў каштоўныя паперы. Напрыклад, у банкаўскія сертыфікаты, у акцыі. Папулярнае і страхаванне жыцця. Праўда, у апошнія гады прыватныя асобы пачалі больш актыўна ўкладаць грошы ў акцыі.

Па выніках даследавання найбуйнейшага нямецкага кэшбэк-партала shoop.de, даходы сярэднестатыстычнага жыхара Германіі складаюць без малога 2800 еўра ў месяц. Немцы імкнуцца распараджацца сваімі грашыма разумна, вельмі старанна плануюць бюджэт і скрупулёзна вядуць улік выдаткаў.

Перш за ўсё, з заробленых грошай выдаткоўваюць на аплату арэнды жылля або пагашэнне крэдыту на яго. Гэта можа складаць палову даходаў. У першую чаргу, аплачваюць камунальныя паслугі, страхоўкі. Нямала сродкаў сыходзіць і на ўтрыманне аўтамабіля.

### Эканомяць на ежы і вадзе

На ежу немцы выдаткоўваюць прыкладна дзевяць працэнтаў даходаў. У параўнанні з французамі, італьянцамі і іспанцамі, якія марнуюць на харчаванне ад 13 да 15 працэнтаў, гэта не так шмат.

Немцы таксама эканомяць на электрычнасці, а асабліва – на вадзе. За апошнія два дзесяцігоддзі спажыванне вады на душу насельніцтва ў Германіі пастаянна зніжаецца. Калі ў пачатку 1990-х гадоў адна дамашняя гаспадарка спажывала каля 150 літраў вады ў дзень, то сёння – на 20 літраў менш.

Калі немец чысціць зубы, вада з крана ў яго не цячэ. Пры куплі пральнай або пасудамыечнай машыны ён у першую чаргу звяртае ўвагу на яе эканамічнасць. У кожнай кватэры ёсць лічыльнікі расходу халоднай і гарачай вады.

Немцы аддаюць перавагу эканамкласу ў адзенні, мэблі, упрыгажэннях. Рэчы ад знакамітых брэндаў не з'яўляюцца для іх прадметамі першай неабходнасці. Калі яны іх і купляюць, то толькі на распродажах.

А вось на чым жыхары Германіі не хочуць эканоміць, дык гэта на адпачынку. Больш за палову немцаў – 59 працэнтаў – з задавальненнем інвестуюць грошы ў якасны адпачынак на добрых курортах або ў захапляльныя туры, падчас якіх можна даведацца шмат новага, пазнаёміцца з культурай і традыцыямі іншай краіны.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК паводле dw.com. Фота аўтара.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**3 265**

столькі фермерскіх гаспадарак было ў Беларусі на пачатак 2020 года.



**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.06 | 11.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.3885 | **2.3721** |
| Еўра | 2.6773 | **2.6941** |
| Злоты, 10 | 6.0971 | **6.0334** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4985 | **3.4532** |
| Грыўня, 100 | 8.9296 | **8.9067** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **3.06** | **10.06** |
| Еўра | 2.6200/2.7200 | **2.6500/2.7500** |
| Долар ЗША | 2.3700/2.4400 | **2.3300/2.4000** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 3.06 | 10.06 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,00 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,30 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,87 | **7,68** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,35 | **6,20** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,90 | **2,35** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,35 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 1,79 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,90 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,60** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,40 | **1,90** |
| Бульба маладая, 1 кг | – | **2,00** |
| Буракі маладыя, 1 кг | – | **2,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,30 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,80 | **6,80** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **–** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,00 | **4,30** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| Вінаград, 1 кг | 7,00 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 6,00 | **–** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **8,00** |
| Клубніцы, 1 кг | 17,00 | **12,00** |
| Лімон, 1 кг | 5,90 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **3,00** |
| Персікі, 1 кг | 10,00 | **6,90** |
| Чарэшні, 1 кг | 13,00 | **10,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,99 | **3,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Відавочцы затрымалі ўгоншчыка да прыезду міліцыі

МЯДЗЕЛ

Жыхарка адной з вёсак Мядзельскага раёна ездзіць на працу з перасадкамі: раніцай ад дома да прыпынку грамадскага транспарту дабіраецца на асабістым аўтамабілі і далей едзе на аўтобусе. Вечарам жанчына такім жа чынам вяртаецца. Машына на працягу дня стаіць недалёка ад прыпынку каля загараднай трасы.

– Трэцяга чэрвеня работнікі дарожнай арганізацыі абкошвалі ўзбочыны і ўбачылі, што мужчына штурхае рукамі машыну, – распавялі ў крымінальным вышуку Мядзельскага РАУС. – Яны знешне ведалі аўтаўладальніцу і былі ў курсе схемы яе паездак. Калі відавочцы падышлі бліжэй, аўтамабіль ужо з'ехаў правым бокам у кювет, невядомы быў побач. Шкло ў дзвярах кіроўцы было разбітае. Відавочцы зразумелі: у іх на вачах адбылося злачынства. Угоншчыка затрымалі і выклікалі міліцыю.

Фігурант – 47-гадовы мясцовы жыхар – раней судзімы, зараз нідзе не працуе. У мінулым годзе ён вызваліўся з калоніі, дзе адбываў пакаранне за забойства.

Мужчына прызнаўся, што хацеў завалодаць аўтамабілем для продажу. Для гэтага паспрабаваў пракруціць замок запальвання адвёрткай – не ўдалося. Вырашыў штурхаць машыну з заблакаваным рулём, з-за чаго і з'ехаў з дарогі.

Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Знікла 63-гадовая віляйчанка

ВІЛЕЙКА

**Знікла Аліна Іванаўна Бібікава.**



Яна нарадзілася 26 сакавіка 1957 года. Жыве ў Вілейцы на вуліцы 17 Верасня.

Каля 11 гадзін 6 чэрвеня невядома куды пайшла з дому. Дагэтуль месца яе знаходжання невядомае.

Жанчыну шукаюць валанцёры і Вілейскі РАУС. Калі вам нешта вядома – тэлефануйце: **8 (025) 959-36-48, 8 (029)181-71-29** або **102**.

Інфармацыю падаў пошукава-выратавальны атрад «Анёл Паўночны Захад».

**Аддзел інфармацыі.**

## Знік 90-гадовы мінчанін

МАЛАДЗЕЧНА

**8 чэрвеня ў РАУС Маладзечна паведамілі пра знікненне 90-гадовага жыхара сталіцы Васіля Іосіфавіча Дзяленддзіка.**



На лінію 102 патэлефанавала яго дачка і распавяла, што вечарам 7 чэрвеня бацька выйшаў з дачнага дома, што ў садовым таварыстве «Глобус» Маладзечанскага раёна, і накіраваўся ў бок чыгуначнай станцыі Дубровы. Пасля гэтага знік, паведамляюць у РАУС Маладзечна. На сёння месцазнаходжанне пенсіянера невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 90 гадоў, худы, рост 168-170 сантыметраў, светлыя валасы, шэрыя вочы. Па словах дачкі, у ходзе размовы можа часта казаць «не памятаю». З левага боку на грудзях у мужчыны стаіць кардыёстымулятар.

**Быў апрануты** ў чорную кепку, чорную падоўжаную куртку «на маланцы», бэжава-карычневыя вельветавыя штаны, пад імі трыко і камуфляжныя штаны, фланелевую кашулю ў буйную клетку сіне-жоўтага колеру і ўцепленыя боты.

Маладзечанскі РАУС пераканаўча просіць грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месцазнаходжанне мужчыны, паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **(8-033) 381-52-90, (8-0176) 58-05-61, 102** альбо на адрас: Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота pxhere.com

Дзяўчынкі пайшлі купацца, не папярэдзіўшы дарослых.

# Патанула 10-гадовая дзяўчынка

### Яна ратавала сяброўку, якая не ўмела плаваць

СМАРГОНЬ

**На Смаргоншчыне 10-гадовая дзяўчынка патанула, калі ратавала сваю сяброўку.**

Папярэдне вядома, што ўдзень 9 чэрвеня дзве дзяўчынкі 10 і 13 гадоў адправіліся да вадаёма паблізу вёскі Асінаўка. Пры гэтым дарослым нічога не сказалі.

13-гадовая дзяўчынка зайшла ў вадаём па бетонных плітах, пасліznулася і ўпала ў ваду. Дзяўчынка не ўмела плаваць.

Ёй на дапамогу паспяшалася 10-гадовая дзяўчынка, якая ўмела плаваць і ўжо знаходзілася ў вадзе, аднак сама патанула, спрабуючы яе выратаваць.

Выратавальнікі дасталі цела дзіцяці. Следчыя агледзелі месца здарэння, прызначылі судова-медыцынскую экспертызу, апыталі відавочцаў.

**Паводле Следчага камітэта Беларусі.**

## Вясковец заплаціць за маральную шкоду сваёй было дзяўчыне

ВІЛЕЙКА

Справу пра тое, што жыхар Вілейшчыны выклаў у сацсеткі інтымныя фота сваёй былой дзяўчыны, у суд перадалі 24 красавіка. Цяпер вынеслі прыгавор.

Нагадаем, што маладыя людзі жывуць у адной мясцовасці. Яны сустракаліся, а потым пасвараліся. У маладога чалавека засталіся інтымныя фота дзяўчыны. Таксама быў логін і пароль ад яе старонкі ў сацсетках. 27-гадовы фігурант зайшоў на старонку былой дзяўчыны і ў суполцы выклаў яе інтымныя фотаздымкі.

Па словах намесніка пракурора Вілейскага раёна **Андрэя Жукоўскага**, фігурант атрымаў два гады пазбаўлення волі. Аднак суд прызначыў выпрабавальны тэрмін на адзін год.

Калі малады чалавек будзе выконваць пэўныя патрабаванні і не трапіць у поле зроку міліцыі, у калонію яго не адправяць.

Таксама фігурант павінны адпрацаваць сто гадзін на грамадска-карысных работах і задаволіць іск дзяўчыны за маральную шкоду – заплаціць ёй дзве тысячы рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Парушыў самаізаляцыю і атрымаў штраф

МАЛАДЗЕЧНА

Як расказалі ў РАУС Маладзечна, выпадкі парушэння самаізаляцыі на Маладзечаншчыне адзінкавыя. Аднак на мінулым тыдні спіс парушальнікаў, дзе ўжо былі два чалавекі, папоўніў 57-гадовы маладзечанец.

Міліцыянеры ў рамках кантролю прыехалі праверыць, як мужчына выконвае рэжым самаізаляцыі. Аднак па месцы жыхарства яго не аказалася. Праз пару хвілін гаражанін вярнуўся дадому, патлумачыўшы праваахоўнікам, што быў у бліжэйшай краме. Пры гэтым на ім не было медыцынскай маскі і пальчатак.

Спачатку фігурант паспрабаваў пазбегнуць адказнасці, сцвярджаючы, што ў краме карыстаўся ахоўнымі сродкі. Міліцыянеры правялі праверку, вывучылі запісы з камер відэаназірання. Устанавілі, што мужчына, сапраўды, наведваў бліжэйшую краму, але сродкі індывідуальнай засцярогі адсутнічалі. Толькі пасля гэтага маладзечанец прызнаўся ў зробленым.

За адсутнасць маскі і пальчатак у дачыненні да мужчыны склалі адміністрацыйны пратакол па артыкуле 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусь. Па рашэнні суда мужчына павінны выплаціць штраф у памеры 810 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Ільі кіроўца на квадрацыкле ўрэзаўся ў плот

ВІЛЕЙКА

Аварыя адбылася 5 чэрвеня.

43-гадовы мужчына з Мінска прыехаў у Ілью на лецішча. Каля 15 гадзін ён ехаў на квадрацыкле па вуліцы Труханава. Там не справіўся з кіраваннем і ўехаў у бетонны плот, паведамілі ў Вілейскай ДАІ.

Цяпер кіроўца ў бальніцы з ударамі і пераломамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зніклага знайшлі загінулым

АШМЯНЫ

2 чэрвеня на сваім сайце мы паведамлялі, што валанцёры і Ашмянскі РАУС шукаюць жыхара аграгарадка Кракоўка, што на Ашмяншчыне.

24 мая каля 13 гадзін мужчына пайшоў невядома куды і знік. Валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл Паўночны Захад» паведамілі, што мужчына загінуў. 7 чэрвеня яго знайшла адна з пошукавых груп.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Міхаіла КУЛЯША.

Калі ў мінулым годзе ў фатографа з Вілейкі Міхаіла Куляша хапала вясельных заказаў, то сёлета будзе першы ў сезоне толькі 13 чэрвеня.

# Вяселлі ў пандэмію спраўляюць, але больш сціпла

**Пра тое, як паўплываў каронавірус на вяселлі ў рэгіёне, мы распыталі прадстаўнікоў розных кірункаў, што абслугоўваюць індустрыю.**

## ЗАГС: мінімум гасцей

Начальнік аддзела ЗАГС Смаргонскага райвыканкама **Інэса Лук'янава** расказала пра змяненні ў вяселлях:

– Не сказала б, каб распісвацца сталі заўважна менш.

> **Некалькі пар адмовіліся ад правядзення цырымоніі, некалькі перанеслі свята на верасень, а некалькі проста адклалі без даты.**

Калі пары бяруць шлюб у ЗАГСе, мы запрашаем на ўрачыстасць не больш за дзесяць гасцей.

## У дэкоры – мінімалізм

**Таццяна Лянкевіч** займаецца дэкорам на Смаргоншчыне і Маладзечаншчыне.

> **Жанчына расказвае, што мінулы год быў нашмат больш насычаны, сёлета ж адзін заказ на тыдзень – ужо някепска.**

З надыходам лета сітуацыя палепшылася, маладыя сталі больш актыўна запрашаць дэкаратара. Многія пары абіраюць вяселле ў фармаце «роспіс у ЗАГСе+фотасесія на памяць». Таму дэкор трапляе ў той сектар, на якім можна сэканоміць.

> **Калі ж прадугледжаны банкет, то маладыя аддаюць перавагу мінімальнаму ўпрыгожванню – дэкор зоны маладых, крыху на сталах гасцей.**

## Першы заказ за сезон

Фатограф з Вілейкі **Міхаіл Кулеш** першы вясельны заказ за сезон будзе адпрацоўваць 13 чэрвеня.

– Заказы зменшыліся на 99%, першая замова ў гэту суботу, і больш пакуль няма. Што будзе далей па вяселлях, невядома. Уся надзея на лета-восень. Калі так і далей пойдзе, давядзецца зачыняць ІП і ісці на самазанятасць. Бо трэба плаціць арэнду, ФЗСН – каля 130 рублёў. Два месяцы сядзеў на самаізаляцыі.

> **Было некалькі прыватных замоў, пакуль выязджаю толькі на выпускных альбомах. І тое, каб сплаціць фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.**

## Адмовяцца хутчэй ад банкета

Некаторыя маладзечанскія фатографы заўважаюць, што хаця заказаў і менш, але яны ёсць. Маладыя імкнуцца захаваць у памяці святочны дзень на фота.

> **А вось банкет могуць адкласці ўвогуле адмовіцца.**

– Канешне, сітуацыя паўплывала на сезон, – кажа фатограф **Уладзімір Цынцавіцкі**. – Але людзі ўсё роўна жэняцца. У Маладзечне за выхадныя было 18 роспісаў.

> **Некаторыя адважваюцца і на свята ў рэстаране. Там госці без масак, але хто адчувае ад сябе небяспеку, сам не пойдзе на свята.**

## «Не самы страшны крызіс»

Музыкант **Дзмітры Рудык** адзначае, што за сезон не меў ніводнай адмовы ад святкавання вяселля. І дадае, што за 26 год кар'еры сёлетні крызіс – не самы страшны:

– Самы сур'ёзны быў, калі долар утрая падскочыў, ну, яшчэ ў 2001 годзе было адчувальна, тры месяцы без працы быў. Сёлета ж асаблівых змяненняў няма.

> **Запрашаюць крыху менш гасцей, бывае. Цэны мы не мянялі.**

Людзі гуляюць, як і гулялі, і самі адказваюць за сябе.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



Марыя Захарэвіч.

Фота onliner.by.

# Марыю Захарэвіч узнагародзілі ордэнам Францыска Скарыны

## Прыгадваем, як артыстка звязаная з нашым рэгіёнам

**Днямі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ 191, згодна з якім народная артыстка Беларусі прыма Купалаўскага тэатра Марыя Захарэвіч атрымала ордэн Францыска Скарыны. Гэта дзяржаўная ўзнагарода, якую прысуджаюць за асаблівыя поспехі ў літаратуры і мастацтве.**

МЯДЗЕЛ
МАЛАДЗЕЧНА

Прыгадаем цікавыя факты з жыцця Марыі Захарэвіч, а таксама яе сувязь з нашым рэгіёнам.

### Марыя Захарэвіч – ураджэнка Мядзельшчыны

Будучая артыстка нарадзілася ў 1936 годзе ў вёсцы Навасёлкі, што сёння ўваходзіць у рысу Мядзела. Была адзіным дзіцем у сялянскай сям'і. Разам з дарослымі школьнікамі працавала і ў калгасе, і на ўласнай гаспадарцы.

Неаднойчы ў інтэрв'ю артыстка згадвала, што вырасла на народных песнях, якіх шмат ведала яе маці.

### Першы раз трапіла ў горад, калі паехала паступаць у тэатральны

У школе і сельскім клубе Марыя выступала на сцэне, шмат спявала народных песень. Вырашыла паступаць на артыстку. Тады ўпершыню трапіла ў горад. Многія з аднакурснікаў Марыі Захарэвіч у будучым, як і яна, сталі народнымі артыстамі.

### Ніколі не адмаўлялася ад прапанаванай ролі

Першая роля Захарэвіч у купалаўскім тэатры – роля студэнткі ў п'есе Івана Мележа «Пакуль вы маладыя». Па словах артысткі, там нічога складанага не было. А пасля ўжо былі больш складаныя псіхалагічныя ролі, з характарам.

Якую б ролю ні прапаноўвалі Марыі Захарэвіч, яна не адмаўлялася ад яе. Лічыла: падабаецца ці не – але трэба іграць.

### Бацькі на спектаклі дачкі прыязджалі вельмі рэдка

Яны, вяскоўцы, не маглі пакінуць гаспадарку. Але асабліва пра гэта не шкадавалі. Хапала таго, што бачылі дачку па тэлевізары. Спачатку Марыя Захарэвіч была дыктарам беларускага тэлебачання, а пасля ўдзельнічала ў розных пастаноўках і фільмах.

### На вуліцы пазнавалі і пазнаюць па голасе

У твар артыстку пазнавалі толькі тады, калі яна працавала на тэлебачанні. А пасля і дагэтуль пазнаюць толькі па голасе. Куды ні прыедзе, толькі загаворыць і: «Ой, ці не Марыя гэта Захарэвіч?». Менавіта голас Марыі адбіўся ў свядомасці людзей.

### З-за траўмы не сыграла Паўлінку ў аднайменным спектаклі

Гэта роля ўжо была падрыхтаваная і адрэпеціраваная. Але бацьку Марыі паклалі ў бальніцу. Дачка ехала яго наведаць, бо той быў у крытычным стане, і трапіла пад аўтобус. Ужо калі ўвялі іншую Паўлінку, гаворка аб гэтай ролі для Захарэвіч не ішла. Яна ўжо рыхтавалася да ролі Ганны з «Людзей на балоце» Івана Мележа. Нават у бальніцы ляжала і чытала гэту ролю.

### Артыстцы прысвяцілі больш за 25 вершаў. Ёсць кніга і фільм пра яе

Вершы Марыі Захарэвіч прысвячалі **Рыгор Барадулін**, **Мікола Шабовіч**, **Дзмітры Пятровіч**, **Аркадзь Нафрановіч**, **Сяргей Давідовіч** і іншыя. У 2017 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга «Марыя Захарэвіч. Талент, адухоўлены любоўю». А за дзесяць год да гэтай падзеі рэжысёр **Сяргей Лук'янчыкаў** зняў пра Захарэвіч дакументальны фільм «Аб чым баліць душа».

### Працавала ў Мінскім абласным драмтэатры, ладзіла майстар-класы для акцёраў

У 2007 годзе Марыя Захарэвіч паставіла ў Мінскім абласным драмтэатры, што ў Маладзечна, п'есу «Сустрэчы і расстанні». Тут жа Захарэвіч паставіла «Апошнюю ахвяру» Аляксандра Астроўскага і «Характары» Васіля Шукшына.

З тэатрам у Маладзечне Марыя Захарэвіч супрацоўнічала доўга. Дзевяць год праводзіла майстар-класы для маладзечанскіх акцёраў.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

## Малочныя прадукты з рэгіёна дазволілі пастаўляць у Расію

ВІЛЕЙКА

«Рассельгаснагляд» ад 8 чэрвеня дазволіў пастаўкі прадукцыі Вілейскага філіяла ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат», паведамілі The DairyNews ў прэс-службе ведамства.

Такое рашэнне прынялі на падставе атрыманых ад беларускага боку матэрыялаў расследавання і гарантыі Дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.

Адасланая ў Расію прадукцыя гэтага прадпрыемства павінна быць выпушчаная ад 8 чэрвеня і суправаджацца электронным ветэрынарным сертыфікатам.

Паводле dairynews.ru.

## Выдзеляць грошы на рэстаўрацыю Крэўскага і Гальшанскага замкаў

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

**Аляксандр Лукашэнка** 5 чэрвеня падпісаў распараджэнне, якім зацвердзіў рашэнне савета фонду Прэзідэнта Беларусі аб падтрымцы культуры і мастацтва.

Міністэрству культуры ў 2020 годзе са сродкаў фонду выдзеляць больш за тры мільёны рублёў. Частку грошай накіруюць на рэстаўрацыю Гальшанскага і Крэўскага замкаў.

Паводле БелТА.

## У Івянцы не стала апошняга ветэрана Другой сусветнай

ВАЛОЖЫН

На 96-м годзе памерла жыхарка Івянца **Ізабэла Елістратава**. Падчас вайны яна была партызанскай сувязной у атрадзе імя Цімашэнкі.

Пасля вайны ўраджэнка сталічнай сям'і, дачка доктара, засталася ў Івянцы разам з мужам. Яго сустрэла ў партызанскім атрадзе. Працавала ў мясцовым райвыканкаме, потым – на заводзе мастацкай керамікі. Мела медалі «Партызан Вялікай Айчыннай вайны» другой ступені, «За перамогу над Германіяй», ордэн Айчыннай вайны другой ступені, афіцыйнае пасведчанне партызана Беларусі, паведамляюць у Валожынскім райвыканкаме.

Аддзел інфармацыі.

## Якіх ракаў можна лавіць у вадаёмах рэгіёна

У Беларусі ў асноўным распаўсюджаныя два віда ракаў – шыракапалы і даўгапалы (вузкапалы). Шыракапалы рак уключаны ў Чырвоную кнігу Беларусі, яго лавіць забаронена. А вось здабыча такога віду, як паласаты рак, – не абмежаваная.

Рак даўгапалы – аб'ект прамысловага і аматарскага рыбалоўства. Правілы яго здабычы рэгламентуюцца пастановай Саўміна ад 2 чэрвеня 2006 г. №699 «Аб зацвярджэнні Правілаў здабычы, нарыхтоўкі і (або) закупкі дзікіх жывёл, якія не належаць да аб'ектаў палявання і рыбалоўства».

Вясной, калі ўстанаўліваецца забарона на лоўлю рыбы, здабыча рака таксама пад забаронай. У Мінскай і Гродзенскай абласцях гэты перыяд доўжыцца ад 1 красавіка да 30 мая.

Нельга здабываць ракаў з даўжынёй цела менш за 10,5 сантыметра. Трэба выкарыстоўваць ракалоўку пэўных параметраў, але не больш за тры на чалавека. Лавіць – толькі ў светлы час, не пакідаць ракалоўку без нагляду. Забаронена выкарыстоўваць для здабычы рака акваланг, плавальныя сродкі і асвятляльныя прыборы. Норма вылаву – не больш за два кілаграмы ў суткі на чалавека. На працягу года нельга лавіць яйцаносных самак і самак з лічынкамі.

### Адметныя асаблівасці відаў ракаў:

- у шыракапалага рака – гладкі без шыпоў карапакс (шчыток, які закрывае цела) і толькі па краях невялікія зярністыя грудкі, шырокія магутныя клюшні, рострум (пярэдняя частка) плоскі, шырокі, краі рострума без зубцоў;
- у вузкапалага рака – карапакс з грудкамі і шыпамі, доўгія вузкія клюшні, рострум доўгі, паралельныя краі рострума з вострымі шыпамі.

За незаконную здабычу кожнай асобіны рака вузкапалага прадугледжанае пакрыццё шкоды – 40,5 рубля, а таксама штраф у памеры ад 540 да 1 350 базавых велічынь.

Асобы, вінаватыя ў здабычы дзікіх жывёл, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, падлягаюць прыцягненню да крымінальнай адказнасці.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Фэст экскурсаводаў з партнёрамі абвяшчае фота-відэаконкурс «Помнікі побач»

**Як вядома, экскурсіі ў межах традыцыйнага фэсту вясной гэтага года не адбыліся ў сувязі з пандэміяй COVID-19. З той жа прычыны вымушана адмененая большасць арганізаваных вандровак па Беларусі. Шмат хто цяпер застаецца ў самаізаляцыі ці на каранціне.**

Але нашы помнікі гісторыі, культуры, дойлідства і прыроды застаюцца побач з намі і патрабуюць нашай увагі. Таму мы абвяшчаем фота-відэаконкурс «Помнікі побач», паведамляюць арганізатары.

Умовы конкурсу:

**1. Абраць сваё фота (ад аднаго да пяці) ці відэа (да пяці хвілін), дзе адлюстраваны помнік гісторыі, культуры, дойлідства ці прыроды Беларусі.**

Гэта можа быць што заўгодна – камень ці балота, дот ці могілкі, капліца ці замак. Галоўнае, што вы асабіста наведалі гэта месца. Фота і відэа могуць быць з вамі, вашымі блізкімі або проста сэлфі.

Фота і відэа арганізатары просяць дасылаць у дастаткова добрай якасці. Пажадана не менш за 400*600 пікселяў.

2. Зрабіць кароткае апісанне гэтага помніка (ад двух да пяці сказаў).

3. Абавязкова дадаць кароткую ўласную гісторыю, звязаную з вашай вандроўкай, ці вашы ўражанні, ці сямейную легенду, ці нават уласны верш.

**4. Апублікаваць у сваіх сацыяльных сетках: «Фэйсбук», «УКантакце», «Інстаграм», – з хэштэгам #помнікіпобач ці #pomnikipobach.**

Публікацый ад аднаго ўдзельніка можа быць некалькі, але ў адной публікацыі – адзін помнік. Калі аўтараў фота, відэа і апісанняў некалькі, пазначце ўсіх.

Прызоў будзе некалькі, па адным ад кожнага з арганізатараў. Пры вызначэнні пераможцаў кожны з арганізатараў будзе прымаць рашэнне самастойна. Будуць улічвацца наступныя крытэрыі:

– помнік маласвядомы, а лепш – зусім невядомы;

– цікавае месца, якое знаходзіцца зусім побач, але звычайна людзі праходзяць міма, не звяртаючы на яго ўвагі;

– крэатыўнасць падачы матэрыялу (незвычайны ракурс, цікавая гісторыя).

Даты правядзення конкурсу: ад 10 чэрвеня да 31 ліпеня.

Арганізатары заклікаюць вас найперш разбіраць архівы сваіх ранейшых вандровак па Беларусі. А калі вы ўсё ж выходзіце на пешаходную ці ровараную прагулку альбо вандруеце з сям'ёй, захоўвайце ўсе правілы бяспекі і сацыяльнага дыстанцыявання.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота з архіва «РГ».

Уладзімір Садоўскі некалькі год ладзіў экскурсіі па Гелянове ў межах фэсту экскурсаводаў.

# Сёлета ў рэгіёне – 226 медалістаў

## Глядзіце, выпускнікі з якога раёна пастараліся найлепш

**Выпускныя экзамены ў школьнікаў скончыліся. І сёння выпускнікі рэгіёна атрымліваюць атэстаты.**

Мы даведаліся, колькі з іх разам з атэстатам атрымаюць медалі і палічылі ў працэнтных суадносінах, які раён у лідарах па медалях.

У мінулым годзе ў рэгіёне было 225 медалістаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| Горад | Колькасць выпускнікоў | Колькасць медалёў | Працэнт медалістаў |
|---|---|---|---|
| Маладзечна | 643 | 83 | 12,9 |
| Вілейка | 221 | 16 | 7,2 |
| Валожын | 164 | 28 | 17 |
| Мядзел | 144 | 20 | 13,9 |
| Ашмяны | 172 | 22 | 12,8 |
| Смаргонь | 236 | 43 | 18,2 |
| Астравец | 177 | 14 | 7,9 |

# ДАІ ладзіць акцыю «Беражыце дзяцей»

**Ад 10 да 20 чэрвеня ДАІ Маладзечна ладзіць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў «Беражыце дзяцей».**

У Маладзечанскім раёне ад пачатку бягучага года зарэгістравалі чатыры дарожна-транспартныя здарэнні з удзелам непаўнагадовых, у якіх тры пешаходы і адзін пасажыр атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. У 2019 годзе – 0.

Работнікі ДАІ і інспекцыі па справах непаўналетніх правядуць кіналекторыі, акцыі, віктарыны з дзецьмі ў летніх аздараўленчых і прышкольных лагерах. Дзецям растлумачаць правілы бяспечных паводзін на дарозе і ў транспарце. Арганізуюць кантроль за выкананнем патрабаванняў Правілаў перавозкі непаўналетніх кіроўцамі індывідуальных транспартных сродкаў, а таксама груп дзяцей пры перавозцы дзяцей аўтобусамі.

ДАІ нагадвае бацькам, каб абавязкова перавозілі дзяцей у спецыяльных сродках і прышпіленымі.

**Сяргей БАРТОШ, ДАІ Маладзечна.**



Фота Настассі УЛКІНАЙ.

Маладзечанская ДАІ ладзіць прафілактычную акцыю, каб знізіць колькасць аварый з удзелам непаўнагадовых.

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Міхаіл Яфрэмаў



Фота rbc.ru.

**Савецкі і расійскі акцёр тэатра і кіно, тэатральны рэжысёр, тэлевядучы. Заслужаны артыст Расіі з 1995 года.**

Міхаіл нарадзіўся 10 лістапада 1963 года ў Маскве ў тэатральнай сям'і. Яго бацька – **Алег Яфрэмаў**, маці – актрыса «Сучасніка» **Ала Пакроўская**, дзед – оперны рэжысёр **Барыс Пакроўскі**, прапрадзед па матчынай лініі – стваральнік новага чувашскага алфавіту **Іван Якаўлеў**.

Сам Міхаіл, успамінаючы дзяцінства, адзначаў:

– Больш за ўсіх мяне выхоўваў мой дзядуля Мікалай Іванавіч Яфрэмаў. Гэта самы хітры чалавек у нашай сям'і, таму што ў 1934-м годзе, калі ён зразумеў, што хутка пачнуць усіх саджаць, паехаў на Поўнач і працаваў у лагерах бухгалтарам. Тым самым ён убярог сям'ю ад рэпрэсій.

Упершыню Міхаіл выйшаў на сцэну МХАТа і сыграў у спектаклі «Сыходзячы, азірніся!». У кіно ён стаў здымацца яшчэ школьнікам: у 1976 годзе адбыўся яго кінадэбют у карціне «Дні хірурга Мішкіна», а праз кава гады ўдзел у фільме «Калі я стану волатам» зрабіў яго адным з самых папулярных юных акцёраў краіны.

У 1982-1984 гадах служыў у радах Савецкай арміі.

У 1987 годзе скончыў Школу-студыю МХАТ і ўзначаліў Тэатр-студыю «Сучаснік-2». Студыя распалася ў 1990 годзе.

У 1991-1996 гадах – акцёр Маскоўскага мастацкага тэатра імя Чэхава.

**У 2007 годзе ўдастоены прэміі «Залаты арол» у намінацыі «Лепшая мужчынская роля ў кіно» за ролю ў фільме «12», а ў 2009 годзе – спецыяльнага прыза журы «Сярэбраная ладдзя» за «лепшае выкананне мужчынскай ролі» ў фільме «Кошачка».**

У 2009-2014 вёў праграму «Чакай мяне» на «Першым канале». У 2011-2012 гадах браў удзел у праекце «Грамадзянін паэт», дзе чытаў актуальныя вершы «на злобу дня».

### Крытыка і крымінальная справа

У сакавіку 2018 года ў ходзе спектакля «Не станавіся чужым» у Самарскім тэатры оперы і балета гледачы выказалі незадаволенасць якасцю выступлення Яфрэмава. Артыст казаў невыразна і, па некаторых меркаваннях, быў п'яны. У адказ Яфрэмаў спыніў спектакль і ўступіў у лаянку з публікай, выкарыстоўваючы нецэнзурную лексіку. Нягледзячы на тое, што ў сецібе з'явіўся відэаролік інцыдэнту, сябар і творчы саюзнік Яфрэмава **Дзмітры Быкаў** назваў усё, што адбываецца, «паклёпам» і заявіў, што супраць артыста развязанае цкаванне.

Міхаіл неаднаразова з'яўляўся ў грамадскіх месцах у нецвярозым стане.

**8 чэрвеня 2020 года маскоўская паліцыя распачала крымінальную справу ў дачыненні да Міхаіла Яфрэмава пасля аўтакатастрофы на Смаленскай плошчы ў Маскве. Кіроўца аўтамабіля, у які ўрэзаўся акцёр, памёр.**

Яфрэмава затрымалі на месцы здарэння і адправілі на медыцынскі агляд на прадмет наяўнасці алкаголю ў крыві. Пазней экспертыза пацвердзіла, што акцёр быў п'яны. Пасля смерці пацярпелага кіроўцы абвінавачанне перакваліфікавалі на больш цяжкую частку артыкула, якія прадугледжвае пакаранне да 12 гадоў пазбаўлення волі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 15 ИЮНЯ

**7.00, 15.10** «Погода»+ «Эрана».
**7.05, 15.15** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 15.20, 17.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ОТПУСК В ДИКОЙ ПРИРОДЕ».**
**9.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ...».**
**10.40** Д/ф.
**11.10** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ-1».**
**12.50, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.10** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.40** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**17.45** «Погода».
**19.15** «Суперлото» 35 минут.
**19.50** Гороскоп.
**20.00** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**21.15** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**23.25** Х/ф **«ПОХИЩЕННАЯ».**

### ВТОРНИК, 16 ИЮНЯ

**7.00, 15.30, 17.45, 21.10, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад»Рапунцель».
**7.30, 15.25, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ЧЕРНОЕ ЗОЛОТО».**
**9.45, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.35** Тревел-блог «Мама я уехал».
**10.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**13.00, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.25** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.35** «Мульт-парад».
**15.45** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**16.10** Х/ф **«ПОХИЩЕННАЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗАПРЕТНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**23.05** Х/ф **«ДОКТОР СТРЭНДЖ».**

### СРЕДА, 17 ИЮНЯ

**7.00, 15.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад»Рапунцель».
**7.35, 15.05, 17.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«СТАНДАРТЫ КРАСОТЫ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** Д/ф.
**10.30** Х/ф **«ДОКТОР СТРЭНДЖ».**
**12.30, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.00** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.10** «Мульт-парад».
**15.20** Х/ф **«ФОРСАЖ. ХОБС И ШОУ».**
**17.45, 21.10** «Погода»+ «Эрана».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВОИН».**
**23.35** Х/ф **«БЕЗУМНЫЙ МАКС. ДОРОГА ЯРОСТИ».**
**1.20** «Погода».

### ЧЕТВЕРГ, 18 ИЮНЯ

**7.00, 15.40, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал»Рапунцель».
**7.30, 15.45, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«СТАНДАРТЫ КРАСОТЫ».**
**8.25, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**10.20** Д/ф.
**10.50** Х/ф **«ВОИН».**
**13.15, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.40** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ИГРА НА ВЫЖИВАНИЕ».**
**17.35** «Фешнismупрофешн».
**19.10, 1.30** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПОБЕГ ИЗ ГУЛАГА».**
**23.50** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ ЛЕТО 53-ЕГО».**

### ПЯТНИЦА, 19 ИЮНЯ

**7.00, 15.50, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал»Рапунцель».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«СТАНДАРТЫ КРАСОТЫ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** Д/ф.
**10.50** Х/ф **«ПОБЕГ ИЗ ГУЛАГА».**
**13.30, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.50** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«МАНЕКЕН».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ИГРА».**
**0.20** Х/ф **«МСТИТЕЛИ».**
**2.50** «Погода».

### СУББОТА, 20 ИЮНЯ

**7.00, 14.55, 18.45, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Семейка Адамс».
**8.40, 16.45** «Приколы 13-й школы».
**8.45** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**9.05** Х/ф **«ЖИЛИ-БЫЛИ».**
**10.35** Х/ф **«ДВЕ ЖИЗНИ».**
**15.00** Смотрим всей семьей «Зов предков».
**16.50** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА».**
**18.50** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОГАТЫРЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешнismупрофешн».
**21.20** Х/ф **«ВОЙНА БЕСКОНЕЧНОСТИ».**
**23.25** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ-2».**
**1.00** «Погода».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 21 ИЮНЯ

**7.00, 14.45, 18.45, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад»Иван царевич и серый волк».
**8.35, 16.10** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**10.00** Готовь как шеф.
**10.20** Х/ф **«ДВЕ ЖИЗНИ».**
**14.50** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**16.15** «Погода».
**16.20** Т/с **«УБИЙСТВО У МОРЯ».**
**18.00** Т/с **«КАСЛ».**
**18.50** Х/ф **«ЗАБВЕНИЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«ТИТАНИК».**
**0.35** Гороскоп.

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 15 ИЮНЯ

**6.30** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**8.20** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ».**
**9.55** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**
**13.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**15.00** Х/ф **«8 ПЕРВЫХ СВИДАНИЙ».**
**17.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ВСЕ О МУЖЧИНАХ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 16 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25** Театральная гостиная.
**8.25** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ ТАЙНЫХ АГЕНТОВ».**
**10.30** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**13.00** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**15.10** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**16.30** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**19.20** Гость в студии.
**20.15** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 17 ИЮНЯ

**6.30, 7.35** Песня на завтрак.
**7.20** Гость в студии.
**8.00** Новости БЖД.
**9.40** Х/ф **«ИСПОВЕДЬ НЕВИДИМКИ».**
**11.40** Х/ф **«ЁЛКИ 5».**
**13.00** Х/ф **«МАМЫ».**
**14.50** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**16.55** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Свет души.
**20.15** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 18 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.15, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мастерство и вдохновение.
**10.00** Х/ф **«ИСТОРИЯ О НАС».**
**13.00** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ, УДАЧИ!».**
**14.50** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА».**
**16.40** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**19.20** Актуально.
**19.35** Протокол.
**20.20** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 19 ИЮНЯ

**6.30, 7.25** Песня на завтрак.
**7.00** Протокол.
**8.00** Актуально.
**10.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**11.55** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**13.45** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**15.40** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**18.50** Мая Радзіма.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.40** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СУББОТА, 20 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Свет души.
**8.20, 21.10** Волшебная книга МЧС.
**8.30** Х/ф **«ВОЛКИ И ОВЦЫ. БЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**10.30** Х/ф **«ТАКСИ 2».**
**13.00** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**14.50** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**16.25** Х/ф **«КАК УКРАСИТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**19.20** Мастерство и фантазия.
**20.20** Развод по-французски.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.20** Рядом со звездой.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 21 ИЮНЯ

**6.30** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**8.30** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**10.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**12.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**13.50** Х/ф **«ХОЛОП».**
**15.40** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**17.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**19.40** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**21.20** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**

## Беларусь 1

**6.25, 16.35, 19.20** Х/ф **«СОВСЕМ ЧУЖИЕ».**
**8.15** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.50** Истории спасения.
**10.30** Зона Х. Итоги недели.
**11.05** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ТРЕТЬЯ ПОПЫТКА».**
**14.25** Маршрут построен.
**15.15** Твой город.
**15.30** Х/ф **«ІСН ВОЙНА».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«ОТ ЛЮБВИ ДО НЕНАВИСТИ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**
**9.20, 19.35** Телебарометр.
**9.25** «Подиум». Фэшн-шоу.
**10.15** «До свидания». Реалити-шоу.
**11.00** «Зов крови». Реалити-шоу.
**12.05** «Верю не верю». Трэвел-шоу.
**13.00** Х/ф **«ПРИНЦ ПЕРСИИ: ПЕСКИ ВРЕМЕНИ».**
**14.50** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.15** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод III- Месть Ситхов».
**20.05** «Секретный миллионер». Реалити-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.20** Х/ф **«ЛЕВША».**
**23.25** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.15, 13.25, 20.15** Навіны культуры.
**7.35, 20.35** Гэты дзень.
**7.40** «Лятучая мыш». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Калатуха з блінамі.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Няўдачнік Альфрэд, або Пасля дажджу дрэннае надвор'е». Мастацкі фільм.
**13.45** «Пожалуйста, будьте рядом…» Канцэрт Нэлі Багуслаўскай і Ізмаіла Капланава.
**14.45** «Легенды кіно». Анатоль Папанаў.
**15.25** «Дзеці Дон Кіхота». Мастацкі фільм СТ.
**16.45** «Дзень медыцынскіх работнікаў». Канцэрт.
**18.00** «Жыццё і надзвычайныя прыгоды Рабінзона Круза». Мастацкі фільм.
**19.30** «Тэатр у дэталях». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Першы».
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Бессмяротны гарнізон». Мастацкі фільм.
**22.45** І.С.Бах. «Пакута па Марку». Выконваюць Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, Студэнцкі хор Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Дырыжор – Ёрн Бойзен.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** ОНТ представляет: «Марафон #СПАСИБО ВРАЧАМ».
**11.45** «Видели видео?».
**12.55** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.
**14.10** Х/ф **«ОДУВАНЧИК».**
**16.20** Х/ф **«ДЕТИ ДОН КИХОТА».**
**17.45** «Спасибо врачам!».
**20.00** Контуры.
**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».
**22.05** «Dance Революция».
**23.40** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**0.00** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр. Финал.

## СТВ

**6.30, 23.55** «Живая тема».
**8.10, 11.00** Документальный проект.
**9.05** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.45, 13.40, 16.40** Т/с **«ЖЕЛТЫЙ ГЛАЗ ТИГРА».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**20.35** Документальный спецпроект.
**22.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня». Начало войны.
**6.30** Д/ф «ВОЙНА НА РЕЛЬСАХ».
**7.00** Х/ф **«НА ВОЙНЕ КАК НА ВОЙНЕ».**
**8.50** «Наше кино. История большой любви». Фильм «Ворошиловский стрелок».
**9.25** «ФазендаЛайф». Дом, который построил дед после войны.
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10** Т/с **«БЛИНДАЖ».**
**14.55, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**1.45** Д/ф «ЛЕТО 1941 ГОДА».
**3.10** Х/ф **«ДВА БОЙЦА».**
**4.55** «Наше кино. История большой любви». Фильм «Военно-полевой роман».
**5.20** Т/с **«ТАЛЬЯНКА».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».
**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.45** «Истории ремонта».
**7.20** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.55** Беларусы.
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.25** «Первая передача».
**10.55** «Чудо техники».
**11.45** «Дачный ответ».
**12.45** «НашПотребНадзор».
**13.40** Х/ф **«БРЕСТСКАЯ КРЕПОСТЬ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.10** Ты не поверишь!
**21.15** «Звезды сошлись».
**22.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**23.10** Х/ф **«АНКОР, ЕЩЕ АНКОР!».**
**1.00** «Великая война».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЕДИНСТВЕННАЯ РАДОСТЬ».**
**10.20** «Устами младенца».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.15** Х/ф **«ПУСТЬ ГОВОРЯТ».**
**14.40** Х/ф **«ПОГОВОРИ СО МНОЮ О ЛЮБВИ».**
**18.00, 21.45** Х/ф **«КТО Я».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.15** «В людях».
**22.50** ПРЕМЬЕРА. «РОССИЯ. КРЕМЛЬ. ПУТИН».
**23.55** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьёвым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.25** Одноклассники 2. **8.10** Соммерсби. **10.25** Счастливый случай. **12.10** Испанский-английский. **14.30** Фрида. **16.40** Одноклассники. **20.10** Ван Хельсинг. **22.25** Я, Франкенштейн. **0.00** Пастырь. **1.30** Все деньги мира. **4.00** Кон-Тики.

### TV1000 ACTION

**6.40** Денежный поезд. **8.25** Переговорщик. **10.55** Чистильщик. **12.25** Неудержимый. **14.00** Неудержимые. **15.40** Неудержимые 2. **17.20** Неудержимые 3. **19.25** Легион. **21.10** Пассажир. **22.55** Винчестер. Дом, который построили призраки. **0.35** 22 пули: Бессмертный. **3.00** Азартные игры. **5.10** Законопослушный гражданин.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.50** Всё и сразу. **9.40** Тени забытых предков. **11.30** День радио. **13.15** День выборов. **15.35** День выборов 2. **17.25** Мужчина с гарантией. **19.00** Тёмный мир. **20.45** Тёмный мир: Равновесие. **22.25** Побег. **0.35** All inclusive, или Всё включено! **2.15** Всё включено 2. **4.05** Первые. **5.45** Дикая Лига.

### ТВ3

**6.00, 9.30** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.15** «Комаровский против коронавируса». **11.30** «Мама Russia». **12.30** Х/ф **«ОРЕЛ ДЕВЯТОГО ЛЕГИОНА». 14.45** Х/ф **«ПОМПЕИ». 16.45** Х/ф **«МУШКЕТЁРЫ». 19.00** Х/ф **«ПРЕЗИДЕНТ ЛИНКОЛЬН: ОХОТНИК НА ВАМПИРОВ». 21.00** Х/ф **«ВИДОК: ОХОТНИК НА ПРИЗРАКОВ». 23.15** Х/ф **«ВИНЧЕСТЕР: ДОМ, КОТОРЫЙ ПОСТРОИЛИ ПРИЗРАКИ». 1.15** Х/ф **«ХОЛМС И ВАТСОН». 2.45, 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.00, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00** «Любовь как любовь». **10.00, 11.00, 18.00, 19.00** «Татьянин день». **12.00, 20.00** «Две судьбы». **13.00, 21.00** «Подсадной». **13.50, 21.40** «Остров ненужных людей». **14.35, 22.25** Х/ф **«В СТОРОНУ ОТ ВОЙНЫ». 0.00, 0.50, 1.35, 2.25, 3.10, 4.00, 4.50, 5.35** «Ночные ласточки». **6.25, 7.10** Х/ф **«РАЗЖАЛОВАННЫЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«2+1». 3.00** Х/ф **«ЗАГАДАЙ ЖЕЛАНИЕ». 4.30** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ». 6.20** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА». 8.20** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 10.05** Х/ф **«НЯНЬКА ПО ВЫЗОВУ». 11.55** Х/ф **«ДУШЕВНАЯ КУХНЯ». 13.55** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ». 15.35** Х/ф **«ИЗ 13 В 30». 17.30** Х/ф **«ПАПАШИ БЕЗ ВРЕДНЫХ ПРИВЫЧЕК». 19.30** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ». 21.25** Х/ф **«КАБЕЛЬЩИК». 23.15** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 1.50, 3.20, 4.15, 5.20, 6.30** Долина. **7.40, 8.45, 9.45, 10.50, 11.50, 12.50, 13.55, 14.55** Шакал. **16.00, 17.00, 17.55, 19.00, 20.00, 21.00, 22.05, 23.05** Операция «Сатана».

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 2.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45, 2.35** Шоу «РОГОВ ДОМА». **13.45** Х/ф **«БЫСТРЕЕ ПУЛИ». 15.40** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ». 17.50** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ 3: МОРЕ ЗОВЁТ». 19.35, 0.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВЫЙ ПОЛИЦЕЙСКИЙ». 22.50** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **23.30** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Хэм — Вулверхэмптон. **9.05** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 14-й тур. **11.00** Футбол. Чемпионат Англии. Брайтон — Арсенал. **13.00** Пит-стоп. **13.30** Чемпионат мира по водным видам спорта. **15.50** Спорт-центр. **17.50** Вот это спорт! **18.05** Футбол. Чемпионат Англии. Астон Вилла – Челси. В перерыве Спорт-центр. **20.05** Итоги недели. **20.50** Футбол. Чемпионат Англии. Эвертон – Ливерпуль. **22.50** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.35** Тренировочный день.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. WTCR-2019. Сузука. Обзор. **0.30** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Обзор. **1.00** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Обзор. **1.30** Автогонки. WTCR-2019. Обзор сезона. **2.30** Снукер. «Мастерс»-2019. Лондон. 1/2 финала. Дин – О'Салливан. **4.00** Снукер. «Мастерс»-2019. Лондон. 1/2 финала. **6.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2019. **7.00** Автогонки. Гейминг. Ле-Ман. **8.30** Автогонки. Гейминг. WTCR. **9.30** Теннис. Обзор. **12.30, 20.00** Снукер. «Мастерс»-2019. Лондон. Финал. **15.00** Велоспорт. Страде Бьянке-2017. **16.30** Велоспорт. Милан – Сан-Ремо-2017. **18.30** Велоспорт. Классика Сан-Себастьяна-2017. **21.25** Футбол. Чемпионат Норвегии. Бранн – Викинг. Прямая трансляция. **23.30** Автогонки. Гейминг. WTCR. Хунгароринг.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 7.45, 16.20** Поездка выходного дня. **6.45, 8.15, 16.45, 18.30** Металломщики. **7.30, 9.55, 12.55, 15.40, 19.20, 23.20, 1.25, 4.00** Итоговые новости. **9.05** Резьба по стали. **9.35** Тест с дядей Ваней. **10.10** Мотогараж. **10.40** Мото тест-драйв. **11.00, 19.35, 22.50, 3.30** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.30, 20.05, 4.15** Авто: вторые руки. **11.45, 20.25, 23.40, 4.25** Трасса А2. **12.35, 0.25** Хорошо забытое. **13.10, 0.45** Испытание на прочность. **13.45, 1.15** Вторичка. **13.55, 1.40** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **14.30, 21.15, 5.10** Тест в большом городе. **15.00** Байки про байки. **16.00, 22.30, 3.15** Дома на колесах. **17.35** Обновление. **17.45, 2.10** В поисках мотоприключений. **21.45, 2.35** Вечер с Пикуленко. **5.45** Мото-тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35** Невероятная рыбалка. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.15** Демонтаж самолетов. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.50, 16.40, 17.25, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30, 21.15, 22.00, 22.50, 23.35, 0.25** Австралийские золотоискатели. **1.10, 1.55** Австралийские охотники на лобстеров. **2.45, 3.30** Ковбои ледяных вод. **4.20, 5.10** Адские грузовики.

### HISTORY

**6.15, 6.40, 5.10, 5.35** Невероятные изобретения. **7.05, 7.50, 8.35** Музейные тайны. **9.20, 10.10** Мифические существа. **11.00, 11.55, 12.55, 13.55** Первые цивилизации. **15.00, 16.00, 17.00** Первые люди. **18.00, 19.00** Хит-парад военной техники. **20.00, 0.25, 1.20** Тридцатилетняя война – Железный век. **21.00** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **21.50** Древние суперстроения. **22.45, 23.35** Карты убийства. **2.10, 2.55, 3.40, 4.30** Запретная история.

### NATURE

**6.10** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **7.05** Жизнь тупиков. **7.55** Невероятные животные. **8.45** Берег хищников. **9.40** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **10.30** Высокие и крошечные: крайности природы. **11.35, 12.25, 13.15, 14.10** Природа Америки: времена года. **15.00, 18.30** Загадочная планета. **15.50** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **16.45** Эпический Йеллоустоун. **17.35** Огромные звери: последние из великанов. **19.20** Бескрайняя Африка. **20.15** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **21.05** Суровая Австралия. **21.55** Невероятные встречи с животными. **22.40, 2.00, 5.15** Мутации погоды. **23.30, 23.55** Природа в кадре. **0.20** Жуткие, настоящие и странные. **1.10** Хищные питомцы. **2.45** Ветеринар из Йоркшира. **3.30** Уличный ветеринар. **4.00, 4.25, 4.50** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупостилучшее за 2018 г. **6.25** Золото Юкона. **7.10, 8.00, 8.45** Непокорный остров 2. **9.35** Авто-SOS 7. **10.20, 4.45** Авто – SOS. **11.05, 11.50** Самые лучшие суперкары. **12.40, 13.25, 14.10** Космос: возможные миры. **14.55, 15.40, 16.25, 17.15** Расследование авиакатастроф. **18.00** Служба безопасности аэропорта: Колумбия. **18.45, 19.30** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **20.15, 21.00, 21.45** Поймать контрабандиста. **22.30, 23.15** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **0.00, 0.25** Горячие границы: Латинская Америка. **0.50, 1.35** Инстинкт выживания 4, лучшее. **2.20, 3.10, 4.00** Неизвестная планета земля. **5.30** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 19.00** Мир рыболова. **7.20, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 0.00, 4.05** Давай зарубимся! **8.10, 15.15** Популярная охота. **8.25, 0.35, 4.35** Рыбалка 360. **8.55, 16.35, 3.05** Рыболовная Россия. **9.25, 13.25, 17.35, 21.35, 5.35** Рыбалка в России. **11.20, 19.30, 3.35** Вкусные рецепты рыболова. **11.50, 16.05, 20.00** Андрей Старков и его команда. **12.25, 20.30** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **12.55, 1.05, 5.05** Охота в Удмуртии. **17.05** Россия заповедная. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.00** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **0.20, 4.20** Охоты и охотники. **1.30** Фотоохота с Евгением Полонским. **2.55** Охотничьи традиции и этика.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.00, 18.05, 22.20, 2.25** Профотбор. **6.30, 10.30, 14.30, 18.35, 22.50, 2.55** Дачных дел мастер. **6.55, 11.00, 15.00, 19.05, 23.20, 3.25** Старинные русские усадьбы. **7.25, 11.45, 15.45, 19.35, 23.50, 3.50** Новые Робинзоны. **7.55, 12.15, 16.15, 20.05, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.10, 12.30, 16.30, 20.20, 0.35, 4.35** Сладкая жизнь. **8.30, 12.45, 16.50, 20.40, 0.55, 4.50** Сам себе дизайнер. **8.45, 13.00, 17.05, 21.00, 1.10, 5.05** У мангала. **9.10** Травовед. **9.30** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **11.30** Наш румяный каравай. **13.30, 17.30, 21.30, 1.40, 5.35** История одной культуры. **15.30** Кисельные берега. **22.00** Самогон. **2.10** С пылу с жару.

# Чаму Маладзечна жыве вечна, а ў Валожыне ўсё як паложана

## Мы сабралі выслоўі пра вёскі і гарады нашага рэгіёна

**Чаму ў Вілейцы ўсё па капейцы, а ў Крэва ўсё налева, наўрад ці цяпер мы зможам растлумачыць. Але падобныя выказванні пра гарады, мястэчкі і вёскі рэгіёна, напэўна, даводзілася чуць нашым чытачам.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

У Вілейку – за капейку. Менавіта тут, на галоўнай плошчы горада, сярод таксістаў нарадзіліся гэтыя словы.

З дапамогай пазаштатных аўтараў, падпісчыкаў у сацсетках і краязнаўцаў мы пастараліся сабраць падобныя выслоўі.

### Маладзечаншчына

Гэты край не аказаўся асабліва багатым на такія выказванні. Вось што мы знайшлі:

1. Маладзечна жыве вечна.
2. У Маладзечне – усё па-чалавечы.
3. У Маладэчыне ўсё задачана (схавана).
4. Мы паедзем у Дамашы, каб напіцца ад душы.

Растлумачыць з гэтых выказванняў можам толькі апошняе. Аказваецца, вёска Дамашы ў Цюрлёўскім сельсавеце вядомая не толькі як радзіма гісторыка **Генадзя Каханоўскага**. Па словах мясцовых жыхароў, у гэтых мясцінах гналі добры самагон.

### Вілейшчына

Тут тры:

1. Ці ты дурны, ці ты з Вілейкі.
2. У Вілейцы – усё па капейцы.
3. У Вілейку – за капейку.

Апошняе выслоўе нарадзілася зусім нядаўна. Так таксісты, якія едуць па маршруце Маладзечна-Вілейка, рэкламуюць свае паслугі.

Найбольш багатая гісторыя ў першай фразы. Традыцыйна яе ўспрымаюць у адносінах да нашай Вілейкі. Але, як аказалася, гэта не так. У выслоўі «Ці ты дурны, ці ты з Вілейкі» маецца на ўвазе іншы горад – не ў Беларусі, а ў Літве. Да 1903 года горад таксама называўся Вілейка, а пасля – Нававілейск, Новая Вілейка, Новая Вільня. Ад 1903 года тут працавала акруговая псіхіятрычная бальніца. Яна была найбуйнейшая ў Расійскай імперыі, вельмі добра абсталяваная, на тысячы штатных ложкаў. Тут нейкі час санітаркай працавала беларуская пісьменніца **Алаіза Пашкевіч (Цётка)**. У 1960-х у бальніцы было дзве тысячы ложкаў. Цяпер гэта адна з найбуйнейшых бальніц у Літве – Рэспубліканская Віленская псіхіятрычная бальніца.

### Мядзельшчына

1. Паедзем у Мядзел, купім надзел.
2. Калі не маеш бабы, едзь у Старыя Габы
3. Нарачанскі край – турыстычны рай.

Чаму надзел трэба было купляць менавіта ў Мядзеле, а за жанчынай ехаць у вёску Старыя Габы Слабадскога сельсавета, пакуль растлумачыць не можам. А выслоўе «Нарачанскі край – турыстычны рай», па словах нашага пазаштатнага аўтара **Вадзіма Праўрацкага**, некалі прыдумалі дзеці, што адпачывалі на Мядзельшчыне ў «Зубраняці».

### Валожыншчына

Пра Валожын і Валожыншчыну мы сабралі пяць выслоўяў. Але прыводзім толькі два, дзе няма нецэнзурных слоў.

1. У Валожыне – усё як паложана.
2. У Ракове – усе ў парадкове.

### Смаргоншчына

Асабліва актыўнымі ў дапамозе аказаліся жыхары і ўраджэнцы Смаргоншчыны. Таму і прадстаўляем вам 12 выслоўяў.

1. У Смургонях і мядзведзі на конях. Значыць, заможна жывуць смаргонцы.
2. Паедзем у Смаргонь, там дзеўкі – агонь!
3. На мядзведзяў табе толькі ў Смургонях трубіць, а не на хвалу божую іграць і спяваць.
4. Алянец – пусты (дурны) канец.
5. Амяліна просіць бліна.
6. Каб ты цягаў камяні на Крэва (праклён.)
7. Выбраць дарогу праз Крэва. Так кажуць у Заскавічах, на Маладзечаншчыне, пра чалавека, які абраў не самае простае рашэнне.
8. Як я йшоў з Вайташоў. Пра нешта зацягнутае, маруднае. Бо з той вёскі ў Крэва далёка ісці.
9. У Баргалішкі на фэст. Баргалішкі – маленькая вёска на Смаргоншчыне, дзе ніколі не ладзілі фэстаў. Калі чалавек так адказвае на пытанне «Куды ідзеш?», ён дае зразумець, каб суразмоўца адчапіўся.
10. Праехаць праз Вавукі – цэлыя мукі.
11. У Крэва – усё налева.
12. Крэва – фарэва.

Відавочна, што апошняе выказванне – гэта вельмі сучасны фальклор. І ўсё ж і яно мае права быць у нашым спісе.

### Ашмяншчына





Фота tmlick.by

Вядомая фраза і герб Ашмянаў ёсць нават на значку.

1. Слухай мяне, будзеш у Ашмяне.
2. Ашмянскі шляхціц – адна нага ў боце, другая – у лапці. Выслоўе пра тое, што шляхта Ашмянскага павета не была асабліва заможнай.
3. Кілун са старых Барун. Універсальная абраза для мужчыны.

### Астравеччына

Тут вельмі сціпла

1. Варона гервяцкая. Пра няззграбнага чалавека.
2. Астравец – свету канец.

Як ні дзіўна, выслоўе пра Астравец прыдумалі яшчэ задоўга да будаўніцтва Астравецкай АЭС.

Ёсць і такія мясціны, пры якія кажуць, што адтуль і свіней не купляюць, не тое што дзевак замуж не бяруць. Нам давялося чуць падобнае пра Забар'е Вілейскага раёна, Дубіну – на Валожыншчыне і Смаргонь. Магчыма, месца, пра якое так кажуць, ёсць у кожнай мясцовасці.

### Вінцук Вячорка: такія выслоўі ўласцівыя ўсім мовам свету

Пракаментаваць з'яўленне ў мове падобных выразаў мы папрасілі мовазнаўцу **Вінцука Вячорку:**

– Гэта тэма на стыку некалькіх мовазнаўчых дысцыплін вельмі цікавая. Фразеалагізмы і прыказкі, якія ўтрымліваюць уласныя назвы, як тапонімы, так і імёны людзей, уласцівыя ўсім мовам свету. Жартоўныя выразы пра мясцовасці таксама ўсюдысныя.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● **КАЛЯНДАР**

**12 ЧЭРВЕНЯ**

**1895.** У фальварку Кур'янаўшчына Вілейскага павета, цяпер Лагойскі раён, нарадзіўся **Леапольд Родзевіч**, беларускі драматург, тэатральны і нацыянальны дзеяч. У 1909 скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы. Загінуў у савецкай ссылцы ў 1938 годзе.

**13 ЧЭРВЕНЯ**

**1953.** У Мядзеле нарадзіўся **Іван Роўда**, філолаг. Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар падручнікаў па беларускай і рускай мовах для школьнікаў і студэнтаў.

**14 ЧЭРВЕНЯ**

**1900.** Нарадзіўся **Міхаіл Забэйда-Суміцкі**. Спявак (лірычны тэнар), педагог. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, вучыўся ў Мілане, оперную кар'еру рабіў у Польшчы і Чэхаславакіі. У Маладзечне яго іменем названая вуліца.



**15 ЧЭРВЕНЯ**

**1940.** У в. Нікольцы Мядзельскага раёна нарадзіўся **Адольф Варановіч**, беларускі паэт, пісьменнік.

**1944.** У в. Сідараўцы Валожынскага раёна нарадзіўся **Валянцін Вялічка**, беларускі дыпламат. Памёр у 2018 годзе.

**16 ЧЭРВЕНЯ**

**1875.** У Вільні нарадзіўся **Канстанцін Галкоўскі (Галкаўскас).** Літоўскі і беларускі кампазітар, дырыжор, педагог. Народны артыст Літоўскай ССР. Апрацоўкі і арыгінальныя хоры Галкоўскага ўваходзяць у рэпертуар Дзяржаўнай харавой капэлы Беларусі.



**17 ЧЭРВЕНЯ**

**1907.** На з'ездзе ў Вільні створаная Краёвая партыя Літвы і Беларусі. У 1908 партыя знікла з палітычнай арэны.

**18 ЧЭРВЕНЯ**

**1911.** У в. Мінкі (цяпер у межах Смаргоні) нарадзіўся **Аляксандр Шыдлоўскі**, беларускі культурны дзеяч, кампазітар, педагог. Аўтар песень «Ой, ты, Нёман родны», «Колькі ў небе зор».

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Праз 80 год сям'я Сцебуракаў знайшла магілу сваяка

## Працягваем публікаваць гісторыі тых, хто знайшоў родных



Пачатак 1930-х. Вайсковыя будні Міхася Сцебуракі ў польскай арміі (пасярэдзіне).

**Жнівень 1939 года. 14-гадовы Анатоль Сцебурака едзе на ровары з роднага хутара Субачы, што на Вілейшчыне, на станцыю Княгінін. Вязе на цягнік свайго старэйшага брата Міхася. Таго прызываюць у Войска Польскае. Так здарылася, што гэта быў апошні раз, калі Анатоль бачыў брата.**

ВІЛЕЙКА

Пра месца і час пахавання, пра абставіны смерці **Міхася Сцебуракі** родныя даведаліся праз 80 гадоў. Яго імя яны знайшлі ў спісе «вераснёвых смертнікаў» **Францішка Жылкі**, надрукаваным у №19 «Рэгіянальнай газеты». Пра Міхася Сцебураку і гісторыю пошукаў яго месца пахавання нам расказаў віляйчук, родны пляменнік Міхася, доктар **Мікалай Сцебурака**.

### Першы раз адслужыў і вярнуўся

Як расказаў суразмоўца, у яго дзеда, таксама **Міколы Сцебуракі**, было 11 дзяцей. Чацвёра памерлі немаўлятамі. Засталіся чатыры сыны і тры дачкі. Міхась Сцебурака, народжаны ў 1912 годзе, быў другім сынам. Вядома, што ён вучыўся ў хатняга настаўніка, хінуўся да сялянскай працы, меў талент сталяра. Для аднаго з братоў рабіў нават музычныя інструменты.

Першы раз у Войска Польскае Міхася прызвалі на пачатку 1930-х. Тады служылі паўтара года. У 1932-1933 гадах ён служыў у палку, які кватараваў у Варшаве. Пісаў родным, што ў войску добра кормяць, што дастаткова розных культурных мерапрыемстваў. Адтуль даслаў родным свой партрэт, які і сёння захоўваецца ў сям'і, – малады чалавек у форме жаўнера Войска Польскага. А пасля дэмабілізаваўся і з багнэтам – адмысловым штыком у ножнах – на поясе прыйшоў дамоў пасля дэмабілізацыі. Працаваў на сельскай гаспадарцы, бо ў сям'і было шмат зямлі.

### Апрануў найлепшы гарнітур, каб вярнуцца прыгожым

Пра другую мабілізацыю Міхася згадвае яго родны брат, 92-гадовы маладзечанец Анатоль Сцебурака, бацька нашага суразмоўцы: «Стаяў гарачы жнівеньскі дзень. Сям'я малаціла салодкі лубін. Працу перарваў солтыс **Антон Буцька** з Лазавых, які прывёз позву на мабілізацыю. У позве было напісана, што на зборы даецца дзве гадзіны. Таму сталі хутка збіраць Міхася. У хаце былі толькі сёстры і маці. Міхась пайшоў у свой пакой і апрануў найлепшы гарнітур. Сказаў, што апрануўся так, каб не было сорамна пасля вяртацца дадому. Бо калі ішоў у войска першы раз, апрануў рабочую вопратку».

Мікалай Сцебурака тлумачыць, што ў Войску Польскім жаўнеры не дэмабілізоўваліся ў вайсковай вопратцы. Ішлі дадому ў тым, у чым прыйшлі. Форма заставалася ў войску:

– У нашай мясцовасці быў выпадак, калі хлопец з беднай сям'і прыйшоў у войска, цывільную вопратку не здаў, а адаслаў малодшым братам. Прыйшла дэмабілізацыя – апрануцца няма ў што. Дык мусіў надзець на сябе мех, прарэзаць дзіркі для галавы і для рук і так ісці на вакзал. А Міхась меў добры гарнітур, таму і апрануў яго.

Ежу ён адмовіўся браць з сабой. Узяў толькі грошы на дарогу. Тры кіламетры да станцыі браты, Анатоль і Міхась, ехалі разам, каб Анатоль пасля прыгнаў ровар дамоў. Па ўспамінах Анатоля, настрой у братоў быў прыўзняты. На вакзале у Княгініне ўжо стаяў цягнік. Было шматлюдна. І раптам на вакзале з'явіўся старэйшы брат **Кастусь**.

– Кастусь прыйшоў усхваляваны, – кажа Мікалай Сцебурака. – Старэйшы брат лепш за ўсіх у сям'і разбіраўся ў палітыцы і прадчуваў, што наперадзе сур'ёзныя выпрабаванні. Кастусь павёў Мішу ў буфет. Яны там замовілі гарэлкі, выпілі на развітанне і абняліся. А малодшаму, Анатолю, купілі сітро.

### Міхась заўсёды быў гераічнай асобай для сям'і

Аб'явілі пастраенне. Будучыя жаўнеры селі ў вагоны, і цягнік рушыў у бок Маладзечна. З тых часоў сям'я больш не бачыла Міхася. Адзіны ліст, які прыйшоў, быў з вайсковага гарадка Гелянова, што пад Маладзечнам, дзе стаяў 86

# з Вілейшчыны

## у спісе «вераснёвых смертнікаў»



Анатоль Сцебурака, які ў 1939 праводзіў брата на службу, на родным хутары Субачы.



Міхась Сцебурака ў Войску Польскім з аднапалчанамі.

пяхотны полк. З ліста сям'я даведалася, што Міхася размяркоўваюць у 81 пяхотны полк гарадзенскіх стральцоў імя Стэфана Баторыя.

**– Менавіта гэты ліст і заблытаў нас у пошуках. Мы шукалі 81 пяхотны полк, прасочвалі яго баявы шлях. Пакуль Францішак Жылка і ваша газета не надрукавалі спіс, – расказвае гісторыю пошукаў спадар Мікалай.**

Кажа, пасля верасня 1939-га ў навакольныя вёскі пачалі вяртацца людзі. Старэйшы брат Кастусь абышоў усіх, хто вярнуўся. Пытаўся, ці бачылі яны Міхася. Казалі рознае, але ніякай дакладнасці не было. І толькі адзін чалавек з Крывічоў сказаў, што бачыў Міхася Сцебураку ў верасні 1939 года пад Пётркувам, дзе былі моцныя баі. Тое, што чалавек той казаў праўду, сям'я зразумела, толькі пабачыўшы спіс жаўнераў, пахаваных у Пётркуве-Трыбунальскім.

– Для нашай сям'і Міхась заўсёды быў асобай гераічнай. Так, тады была польская дзяржава, мы былі Крэсамі Усходнімі. Але ён выканаў абавязак перад радзімай, не здрадзіў, – кажа спадар Мікалай.

### Адказ быў адзін – «звестак няма»

Сям'я шукала Міхася па розных крыніцах: пісалі ў архівы, адусюль атрымлівалі адказы «звестак няма». Вельмі спадзяваліся на Міжнародны Чырвоны Крыж, але і адтуль атрымалі такі самы адказ. Пару год таму з'явілася надзея: праз сацсеткі адгукнуўся чалавек з Вільні, сваяк якога быў у войску разам з Міхасём. Сям'я ўзрадавалася і ўжо была гатовая ляцець у Вільню. Але па незразумелай прычыне той чалавек больш не выйшаў на сувязь.

Спадар Мікалай прыгадвае, што першым імя ў спісе знайшоў яго сын Усевалад. Адразу ж патэлефанаваў бацьку са словамі «Тата, тата! Глядзі хутчэй газету!» Сыны Мікалая, Усевалад і Анатоль, пішуць гісторыю сваёй сям'і. І тое, што звязана з Міхасём пасля 1939 года, было вялікім прабелам. Цяпер гэты прабел запоўніцца.

Па словах суразмоўцы, яго бацька, той самы брат, які вёз Міхася на ровары ў Княгінін, вельмі ўсцешыўся, што месца пахавання брата нарэшце знайшлі:

Для яго вельмі важна ведаць, што ёсць крыж, ёсць магіла, што памяць пра брата ўшанаваная належным чынам, – падсумоўвае Мікалай.

«Вераснёвыя смертнікі» – жаўнеры 86-га Маладзечанскага пяхотнага палка у Гелянове, якія ў верасні 1939 года стрымлівалі немцаў на подступах да Варшавы. Яны першымі прынялі ўдар Германіі ў Другой сусветнай. 250 вайскоўцаў гэтага палка, што загінулі ў верасні 1939 года, пахаваныя ў Польшчы, у горадзе Пётркуве-Трыбунальскім.

*Шаноўныя чытачы, калі вы знайшлі сваіх родных у спісе «вераснёвых смертнікаў», надрукаваным у №19 «Рэгіянальнай газеты», паведаміце, калі ласка, нам па тэлефоне* ***(8-0176) 53-78-06*** *або напішыце на пошту* ***regionnews@rh.by****. Мы абавязкова раскажам вашу гісторыю.*

*Можаце таксама звязвацца з Францішакам Жылкам:* ***(8-029) 619-64-72****, e-mail:* ***info@fra-mil.by****.*

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі з сямейнага архіва Мікалая СЦЕБУРАКІ.**



Партрэт, які Міхась Сцебурака даслаў родным у Субачы з Войска Польскага ў пачатку 1930-х.

# Анхела

**Як вы, дарагія чытачы, ведаеце, у мяне няма сваіх дзяцей. Аднак ёсць любімыя сэрцу пляменнікі (ужо чацвёра!) і, натуральна, дыплом філолага, разам з якім павінны развівацца веды пра дыдактыку моў і літаратур, у тым ліку – пра такую працу з дзецьмі. Да таго ж, мяне заўжды здзіўляла, з самага глыбокага дзяцінства, калі сябры ў школе казалі, што не любяць чытаць – я ж не памятала часу, калі не было файнай кнігі ў руках, і не магла ўявіць, як гэта – не атрымліваць асалоду ад чытання.**

# Што рабіць, калі дзіця не чытае?

**Цяпер, аднак, усё разумею. Я старэйшая і, калі не мудрэйшая, дык прынамсі больш дасведчаная. Сустракала самых розных людзей, задавала пытанні пра чытацкі густ (са мной вечарыны вельмі вясёлыя) і канчаткова пераканалася, што фарміраванне навыку чытання ў дзяцінстве або падлеткавым узросце можа быць ключавым для чалавека.**



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Красненцы Ян і Міраслава Палынскія сябруюць з кнігамі з першых дзён жыцця.

Яно дае перавагу і ў адукацыі, і ў «жыцці пасля школы» – чым больш мы чытаем, тым лепш разумеем, вучымся звязваць думкі, аналізаваць лагічныя працэсы за імі. І тады нас значна цяжэй падманваць.

«Але Анхела», скажуць некаторыя бацькі, «у нас дзіця не чытае, проста лянуецца і ўсё, ні ў якую». Сапраўды, гэтак бывае. Даволі часта. Але не трэба паддавацца адчаю. Перш за ўсё, паспрабуем зразумець, чаму дзіця не чытае.

Першая, самая паверхоўная прычына, якая можа быць у дзіцячай нелюбові да кніг (перадусім у самых маленькіх) у тым, што яны не бачаць кнігі дома і не бачаць, як бацькі чытаюць. Да гэтага мы вернемся пазней. Яшчэ бывае такая праблема – дзіця не мае дзіцячых кніг або тых кніг, якія маглі б падабацца паводле характару (кожны маленькі чалавек мае свой характар, а некаторыя – нават вельмі моцны!). Але самая вялікая перашкода, якую часцей за ўсё ігнаруюць або, дакладней, не заўважаюць, зусім іншая: чытаць цяжка. І механічна, і разумова, каб з сэнсам. Ведаеце, чаму?

Па-першае, задумайцеся, што трэба рабіць дзеля таго, каб чытаць. Нават лепш – дзеля таго, каб навучыцца чытаць першы раз. Што такое пісьмо? Вы згодныя, што гэта спосаб перадачы гукаў у друкаваным выглядзе? Нам не заўсёды выгадна гаварыць усё ўслых, таму мы перадаём інфармацыю праз літары, словы, сказы. Дзеля гэтага, па-першае, мы асацыюем адзін гук (або некалькі ў некаторых мовах) з кожнай літарай/знакам. Вы вось чытаеце гэты артыкул і чуеце, як унутраны голас у галаве зачытвае тое, што я напісала. Аднак гэта вам даецца натуральна – шмат гадоў чытаеце. Для малога дзіцяці гэта вельмі абстрактнае паняцце. Чаму літара «а» вымаўляецца «а»? Колькі розных спосабаў існуе, каб сумяшчаць гэтыя літары? Як даваць інтанацыю сказам? Дзеці пачынаюць чытаць павольна, сумняваюцца, губляюцца ў тэксце, забываюць інфармацыю. І гэта вымагае вялікіх высілкаў. Таму трэба памятаць пра гэта і дапамагаць дзіцяці, калі магчыма. Што даводзіць нас да наступнага пытання – дзецям патрэбны прыклад бацькоў.

У нашым сучасным свеце вельмі цяжка знаходзіць час для спакойнага чытання. А каб з гарбатай, печывам і папяровай кнігай дома – пагатоў. Можа, вы чытаеце кнігі на смартфоне ў тралейбусе па дарозе на працу або пасля таго, калі дзеці пайшлі спаць увечары. Гэта зразумела – так лягчэй (а часам гэта адзіны магчымы шлях для прыемнага чытання), але як тады можна чакаць ад дзяцей, каб яны пачыналі самі чытаць? Напэўна, вы ўжо заўважалі, што дзеці стараюцца быць падобнымі да вас, робіць так, як робіце вы, паўтараць тое, што кажаце – і гэта не супадзенне.

Дзецям трэба бачыць працэс чытання, назіраць за ім, каб з'явілася зацікаўленасць. Яшчэ лепей, калі можна чытаць дзецям або пазней – чытаць разам з дзецьмі. Так, верагодна, сёмы том Уладзіміра Караткевіча так не адолець, але важна ператварыць чытанне ў сямейную традыцыю. А дзеля гэтага варта карыстацца тым, што ўсе малыя дзеці на свеце любяць найбольш – час з вамі, з бацькамі. Ваша дзіця хоча быць з вамі і рабіць тое, што робіце вы. Вы – яго герой ці гераіня. Так-так. Бярыце прыгожыя казкі і чытайце ўсёй сям'ёй пры магчымасці. Абяцаю, вам спадабаецца вынік.

Засталося толькі пытанне пра чытацкі густ дзіцяці. Можа, ваша дзіця падрасло і ўжо не лічыць вас героем (не хвалюйцеся, мне 27 і ўжо лічу бацькоў героямі зноў). Верагодна, дзеці з сябрамі размаўляюць пра тэмы, аб якіх вы ў жыцці не чулі. Гэта нармальна. Увага дзіцяці пераходзіць ад таты з мамай да сяброў і ад сяброў – да пошукаў самога сябе. Гэта прагрэс. Вы ж таксама праходзілі праз гэта, памятаеце? Тут паўстаюць новыя складанасці на шляху вашага сына ці дачкі да свету кніг. Бывае, дзеці хочуць чытаць толькі коміксы і асцерагаюцца кніг без карцінак. Бывае, вельмі моцна зайшла спецыфічная галіна ведаў (дыназаўры там, машыны, мода) і не хочуць чытаць ні пра што іншае. Бывае, не ведаюць, што чытаць, або не знайшлі нічога цікавага яшчэ. Гэта ўсё нармальна. А што ж рабіць?

Магчыма, я вас засмучу, але няма такой панацэі, такой методыкі, якая падыходзіла б кожнаму дзіцяці ў гэтай сітуацыі. Ёсць затое пэўныя важныя пункцікі, якія дапамогуць на 100 працэнтаў:

Паважайце чытацкі густ дзіцяці. Дзіця ўжо вялікае. Апранаецца само, дапамагае бацькам па доме, робіць дамашнія заданні ціха ў сваім пакоі і ўсё-ўсё ўмее, так? Можа, яго густ вам падаецца інфантыльным (гэта ж дзіця), нецікавым або некарысным. Можа, вам хочацца, каб ведаў не толькі машынкі, а каб яшчэ чытаў пра вандроўкі ў космас. А можа, вам не падабаюцца сюжэтныя лініі кніг, якія ён выбірае. Раю вам падтрымліваць гэтыя інтарэсы, нават калі не зусім пасуюць таму, што вы ўяўлялі. Вядома, пры ўмове, што яны падыходзяць да ўзросту дзіцяці (ніякай моцнай літаратуры жахаў да пэўнага ўзросту ці ўзроўню эмацыйнай даросласці дзіцяці, напрыклад). Але, калі падабаюцца грэчаскія міфы ці коміксы пра супергерояў – няхай гэтыя матэрыялы будуць дома даступныя. Галоўнае – каб дзіця чытала. Дзеля таго, каб гэта было магчыма, пераходзім да другога пункту.

Цікаўцеся тым, што чытае ваша дзіця. Каб ведаць, ці пасуе кніга вашаму дзіцяці, – трэба яе прынамсі пагартаць. Так будзеце ўпэўненымі, што яна пасуе і паводле ўзросту, і паводле цікаўнасцей дзіцяці (вы ж яго ведаеце найлепш!), і паводле каштоўнасцей вашай сям'і і выхавання. Хадзіце разам у бібліятэку, у кнігарню, шукайце кнігі, перачытвайце старое. Вядома, нам трэба ўсё ж выходзіць на вышэйшыя ўзроўні, і гэтыя веды дапамогуць выканаць апошні пункт.

Дапамагайце дзіцяці з пошукамі вышэйшай і рознай літаратуры. Калі дзіцяці падабаецца навуковая фантастыка, вельмі верагодна, што яно захоча пачытаць нон-фікшн пра рэальную навуку. Калі падабаюцца казкі – можа спадабацца і паэзія. Калі любіць коміксы пра зладзеяў і герояў, цалкам магчыма, што палюбіць і дэтэктывы. Дзеці пачынаюць сваю прыгоду чытання з самых простых кніг, часам – вельмі аднародных. Наступная ваша задача – пакрысе адкрываць ім новыя магчымасці. Працуйце разам з настаўнікамі беларускай і рускай моў – нават калі вам не прыходзіць у галаву патрэбныя кнігі, яны павінны падказаць. Звяртайцеся да сяброў-знаўцаў літаратуры, да сваіх бацькоў. Галоўнае – не спыняйцеся!


Анхела **ЭСПІНОСА РУІС**
г. Малага (Іспанія)
паэтка,
доктарка філасофіі ў галіне літаратуры
angeespi@ucm.es




# Вы ўпэўненыя, што п’яце чыстую ваду?

## Самы час праверыць гэта самім і дапамагчы іншым

**Вада з калодзежаў і свідравін часта асацыюецца з прыроднай чысцінёй. Лёгка падумаць, што яна ўжо дакладна лепей, чым гарадская вада. Аднак даследаванні паказваюць, што вада з калодзежаў у больш чым палове выпадкаў мае ў саставе ў 2-5 разоў болей дапушчальнага ўзроўню нітратаў.**



Фота Насці УТКІНАЙ.

Праверце ваду, якую п’яце.

Хочаце даведацца, якую ваду п’яце вы, вашы родныя і суседзі?

Далучайцеся да маніторынгу якасці пітной вады і праверце яе ў вашым раёне за некалькі хвілін! У гэтым вам дапаможа грамадскае аб’яднанне «Жывое партнёрства».

Калі вы:

• жывяце ў Вілейскім, Валожынскім, Маладзечанскім або Смаргонскім раёне,

• карыстаецеся вадой з калодзежа, свідравіны ці крыніцы,

• хочаце ведаць, якую ваду п’яце –

проста запоўніце анкету, якую знойдзеце па QR-коду (у канцы артыкула).

Арганізатары дадуць вам тэст-палоскі. Усё, што вам застанецца зрабіць, – набраць кубак вады, правесці тэст, атрымаць вынік і паведаміць аб ім арганізатарам па электроннай пошце. Дзякуючы гэтаму вы не толькі будзеце ведаць пра якасць вады ў вашым калодзежы, але і папоўніце адмысловую карту. Вашыя дадзеныя нанясуць на яе, каб пабачыць агульны стан вады ў вашым рэгіёне.

Больш інфармацыі аб праблеме нітратаў можна знайсці тут: **watercontrol.info/information.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Знаёмяцца, пакуль збіраюць смецце. Маладзечанцы пачалі акцыю

**Падрабязней пра актыўнасць распавяла адна з ініцыятараў праекта Ганна Кішкурна.**

– У Маладзечне смецця хопіць на кожнага, – расказвае жанчына. – Мы хочам не толькі зрабіць горад больш чыстым, але і знайсці новых сяброў і знаёмых. Так і з’явіўся праект «Смеццевыя знаёмствы».

> **Гэта праект для тых, хто хоча не сядзець на канапе і расказваць, як у нас брудна, а гатовы дзейнічаць, каб было чысцей.**

Удзельнікі акцыі дамаўляюцца пра месца, збіраюцца і прыбіраюць смецце разам. А падчас прыборкі знаёмяцца, абмяркоўваюць навіны, песні, размаўляюць на філасофскія тэмы.

> **Усе месцы збору знаходзяцца ў горадзе, да іх можна дайсці пешшу, даехаць аўтобусам ці на ровары. З сабой варта захапіць пальчаткі, ваду, дажджавік.**

Па ўсіх пытаннях, звязаных з ініцыятывай, пішыце Ганне Кішкурне **(vk.com/id14108128).**

**Аддзел інфармацыі.**

## Як насіць і даглядаць ахоўныя маскі

**Спецыялісты Цэнтра экалагічных рашэнняў прапануюць памятаць пра тое, што аднаразовыя тавары – гэта дадатковая крыніца адходаў. Не змяншаючы важнасці клопату аб здароўі, эколагі прапануюць адэкватна ацэньваць рызыкі і неабходнасць выкарыстання масак у кожнай канкрэтнай сітуацыі.**

Маску асабліва важна насіць, калі вы хварэеце – чхаеце і кашляеце. Абавязкова павінны карыстацца маскай тыя, хто даглядае за хворымі або ў выпадку, калі сапраўды ведаеце, што сутыкняцеся з такімі людзьмі.

Перш чым надзець маску, памыйце рукі з мылам. Не чапайце маску, пакуль носіце яе. Калі кранулі, зноў памыйце рукі з мылам.

Аднаразовыя медыцынскія маскі з аптэкі немагчыма выкарыстоўваць паўторна, напрыклад, прадэзынфіцыраваць, пры гэтым іх трэба мяняць прыкладна кожныя дзве гадзіны.

Такія маскі зроблены з нятканага палімернага матэрыялу, таму іх нельга адправіць на перапрацоўку. Каб правільна ад іх пазбавіцца, трэба акуратна зняць маску за завязкі (гумкі) і змясціць у пакет (можна папяровы), затым – у закрытую скрыню або кантэйнер для агульных адходаў. Не варта выкідваць выкарыстаныя маскі ў кантэйнеры для другаснай сыравіны, у тым ліку ў кантэйнеры для пластыку. Не варта выкідаць маскі ў вулічныя урны, з якіх вецер можа іх панесці. Забаронена змываць выкарыстаныя маскі ў каналізацыю, таму што яны, як і вільготныя сурвэткі, могуць стаць прычынай засмечвання і няспраўнасці гарадскіх сістэм водаачышчэння.

Па магчымасці перад выкіданнем прадэзынфіцыруйце маску. Не забудзьцеся пасля ўтылізацыі маскі вымыць рукі.

Гэта інструкцыя падыходзіць для выкарыстання аднаразовых масак у паўсядзённых умовах, маскі з бальніц, паліклінік павінны быць утылізаваныя адмысловым чынам, гэта значыць – як медыцынскія адходы.

Калі вы носіце маску з прынцыпу засцярогі, то выкарыстоўвайце шматразовую. Іх можна купіць у аптэцы (марлевыя) або зрабіць самастойна з марлі, бавоўны або іншага матэрыялу. Некаторыя брэнды перапрафіляваліся і таксама пачалі прапаноўваць маскі, з тканіны цяпер можна і купіць.

Шматразовыя маскі таксама неабходна перыядычна мяняць, як і аднаразовыя. Пасля выкарыстання неабходна зняць маску за завязкі або гумкі. Каб яе абясшкодзіць, памыйце ў гарачай вадзе з мылам і адпарце прасам, пры жаданні можна пракіпяціць. Калі вам прыйшлося памяняць маску па-за домам, то выкарыстаную пакладзіце ў пакет да моманту мыцця.

Такія маскі добрыя тым, што могуць служыць доўга – да поўнага зносу. Пасля іх можна выкарыстоўваць як рыззё. Калі вы вырашылі самастойна зрабіць маску, вазьміце свае старыя запасы тканіны, не купляйце новы матэрыял.

**Паводле Цэнтра экалагічных рашэнняў.**

# «Ашмяны» і «Астравец» згуляюць у 1/16 Кубка Беларусі

**8 чэрвеня АБФФ правяло лёсаванне наступнага этапу Кубка Беларусі. Каманды з нашага рэгіёна – «Ашмяны» і «Астравец» – згуляюць з клубамі вышэйшай лігі ў 1/16.**



З чатырох камандаў рэгіёна толькі дзве згуляюць у наступным этапе Кубка Беларусі.

### Супраць «Тарпеда» і «Мінска»

Пасля лёсавання высветлілася, што «Ашмяны» згуляюць з «Тарпеда-БелАЗ», а «Астравец» сустрэнецца з «Мінскам».

> **«Тарпеда» і «Мінск» гуляюць у вышэйшай лізе. Цяпер жодзінскае «Тарпеда» знаходзіцца на трэцім месцы ў турнірнай табліцы пасля 12 тураў, а мінчане займаюць 13 пазіцыю з 16 у табліцы.**

Прэс-служба АБФФ распавяла, што даты правядзення футбольных матчаў Кубка Беларусі будуць вядомыя пазней. Нагадаем, дзеючым уладальнікам трафея з'яўляецца БАТЭ.

### Папярэднія кубкавыя гульні

У другім кваліфікацыйным этапе згулялі амаль усе футбольныя каманды рэгёна. «Астравец» перамог «Энергетык-БДАТУ» з буйным лікам 6:2, а «Ашмяны» без праблем справіліся з «Горкамі» – 3:0.

У Кубку ўдзельнічалі маладзечанскія футбалісты. «Маладзечна» сустракалася з полацкім «Нафтанам» у першым кваліфікацыйным раўндзе. Маладзечанцы прайгралі ў матчы ў серыі пенальці. У другім кваліфікацыйным раўндзе «Смаргонь» прайграла «Баранавічам».

### Бамбардзіры

**Сяргей Крот** і **Глеб Захарэнь** з «Астраўца», **Павел Дзямідчык** увайшлі ў спіс бамбардзіраў Кубка Беларусі. На рахунку трох футбалістаў па два галы ў кожнага.

**Настасся УТКІНА.**

## Раўбічы прэтэндуюць на правядзенне чэмпіянату свету 2025 года

Міжнародны саюз біятланістаў (IBU) абвясціў гарады-кандыдаты на правядзенне чэмпіянатаў свету 2024 і 2025 гадоў.

Апошні тэрмін падачы заявак скончыўся 1 мая 2020 года.

На турнір 2024 года прэтэндуе толькі чэшскі Нове Месца. У 2025 годзе чэмпіянат свету па біятлоне могуць прыняць швейцарскі Ленцэрхайдэ, беларускія Раўбічы і Нове Месца.

Арганізатары абодвух турніраў будуць абраныя на 14-м чарговым кангрэсе IBU, які быў перанесены з верасня з-за сітуацыі з каранавірусам. Кангрэс пройдзе ў Празе ад 13 да 15 лістапада.

Нагадаем, Раўбічы ўпершыню прымуць этап Кубка свету ў лютым 2022 года.

**Паводле by.tribuna.com.**

## «Ашмяны» падпісалі кантракт з двумя кіберспартсменамі

Прэс-служба «Ашмянаў» заявіла, што клуб пачынае займацца кіберспортам і актыўна развівацца ў гэтым кірунку.

«Ашмяны» падпісалі кантракт з двумя кіберспартсменамі – **Усеваладам Прывалавым** і **Канстанцінам Кіцько**.

**Прэс-служба ФК «Ашмяны-БДУФК».**

## У Мінску пройдзе адборачны этап чэмпіянату Еўропы па валейболе

Еўрапейская канфедэрацыя валейбола правяла лёсаванне сярод краін групы А на права правядзення адборачнага турніру.

У выніку Беларусь на дамашняй пляцоўцы прыме ўсе матчы адборачнага раўнда чэмпіянату Еўропы сярод жанчын, паведамляе прэс-служба БФВ.

Усяго турнір будзе складацца з шасці матчаў, у чатырох з якіх прыме ўдзел беларуская зборная. Турнір пройдзе ад 18 да 23 жніўня ў Мінску.

**Паводле bvf.by.**

## Алег Страхановіч: «Беларусь – нефутбольная краіна»

Футбаліст **Алег Страхановіч**, які выступаў за «Маладзечна», лічыць, што Беларусь не з'яўляецца футбольнай краінай. Аб гэтым паведамляе «Трыбуна» са спасылкай на «Беларусь 5».

– Мы – нефутбольная краіна. Так, мы, можа, хакейная краіна, мы там у зімовых відах спорту лепшыя. Вядома, мы любім усе футбол. Гэта агульнавядома і зразумела ўсім. Але, калі кажуць, што, ой, у нас там ўзровень... Для мяне, па меншай меры, з нашай эканомікай, з нашай інфраструктурай, якая існуе ў нашым футболе, і так, як нашы хлопцы гуляюць – мне падабаецца наш чэмпіянат.

**Паводле by.tribuna.com.**

## Цэнтравы зборнай Латвіі перайшоў у «Цмокі»

Цэнтравы зборнай Латвіі **Клаўс Чаварс** перайшоў у «Цмокі-Мінск», паведамляе прэс-служба клуба.

Сезон-2019/20 Чаварс правёў у родным для яго «Вентспілсе», дзе таксама пачынаў гульню з першых хвілін.

– У асобе Клаўса мы хочам атрымаць моцнага атлета і агрэсіўнага гульца пад кольцам. Ён дасць нам дадатковую моц пры гульні ў «фарбе» і будзе цэментаваць нашы ахоўныя дзеянні. Гэты гулец цяпер знаходзіцца ў тым узросце, калі ёсць баланс паміж ужо набытым досведам выступленняў на еўрапейскім узроўні і перспектывай далейшага росту, – сказаў галоўны трэнер «Цмокаў» **Расціслаў Вяргун**.

**Прэс-служба «Цмокі-Мінск».**

## Раналду ўлетку можа сысці з «Ювентуса»

35-гадовы партугальскі форвард турынскага «Ювентуса» **Крышціяну Раналду** можа сысці з клуба гэтым летам.

Гэту інфармацыю паведаміў журналіст **П'етра Прота**. Прычына сыходу форварда не раскрываецца.

Нагадаем, Раналду перайшоў з «Рэала» ў «Ювентус» у 2018 годзе за 100 мільёнаў еўра. За турынскі клуб ён забіў 53 галы ў 75 матчах.

**Паводле Radio Rossonera.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Вядзьмар.
3. Валіцца, ляцець зверху ўніз пад уздзеяннем сілы цяжару.
5. Сухі чай, які гатуюць у чайніку.
9. Вялікі, шыкоўны, багаты будынак.
11. Пігментныя плямкі карычневага або жоўтага колеру (пераважна на твары), якія з'яўляюцца ў некаторых людзей вясной.
12. Не траваедная жывёліна.
13. Персанаж мультфільма «Смяшарыкі», які любіць займацца сельскай гаспадаркай.
14. Выбарны прадстаўнік, член выбарнай дзяржаўнай установы.
16. Персона Чалавек, асоба.
20. Продаж тавараў з адтэрмінаванай платай або часовая выдача грошай у доўг з выплатай за гэта працэнтаў.
21. Спецыяльна падабраная сумесь, пераважна аднародная; набор.
22. Дзвюма рукамі.
25. Завітая пасма валасоў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Адкрытая ўзброеная барацьба паміж дзяржавамі, народамі, плямёнамі або грамадскімі класамі.
4. Распаленыя газы, якія вылучаюцца пры гарэнні і ярка свецяцца.
6. Смуглы, цёмны колер, які набывае скура пад уздзеяннем сонечных праменяў.
7. Месца, куды звозяць, выкідваюць смецце, непрыгодныя рэчы.
8. Фарбы, якія разбаўляюцца вадой, а таксама жывапіс гэтымі фарбамі.
10. Дзявочая прычоска.
12. Старажытнае ўсходнеславянскае племя, якое жыло на поўнач ад Прыпяці.
15. Нізкарослая драўністая расліна, у якой галіны пачынаюцца амаль ад самай паверхні глебы.
16. Спружынныя шчыпчыкі, якімі бяруць вельмі дробныя, крохкія прадметы; ужываюцца ў медыцыне і тэхніцы.
17. Даручэнне або просьба зрабіць, выканаць.
18. Працэс паглынання кіслароду і выдзялення вуглекіслаты жывымі арганізмамі.
19. Адно з пяці знешніх пачуццяў, органам якога з'яўляюцца вочы.
23. Адна з форм вытворчых адносін, якая заключаецца ва ўзаемным адчужэнні прадуктаў працы і іншых аб'ектаў уласнасці на аснове добраахвотнага пагаднення.
24. Паштучны будаўнічы матэрыял у выглядзе прамавугольных брускоў з гліны і іншай мінеральнай сыравіны.
26. Разборка машын, станкоў, абсталявання пры рамонце або перамяшчэнні іх на новае месца.
27. Напрамак палітыкі, дзейнасці.

## Адказы на крыжаванку з №23

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Кашпо. 3. Хваля. 5. Флакон. 6. Вадалаз. 10. Імігрант. 11. Вясёлы. 12. Характар. 14. Шорты. 15. Валун. 18. Фасоля. 19. Пажар. 20. Іспыт. 22. Кулак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Шуфляда. 4. Калабок. 7. Дзеці. 8. Мерыда. 9. Ілюстрацыя. 13. Цяпло. 15. Віктар. 16. Фрукт. 17. Карона. 18. Фантазія. 21. Шпала. 22. Кот. 24. Дакор.

● ГАРАСКОП ПАТРЭБЫ Ў АДПАЧЫНКУ

## Як зразумець, што вам ужо нельга адкладаць адпачынак і звычайны выхадны ўжо не дапаможа? У кожнага знака свае званочкі.

**АВЕН.** Галоўны паказчык, што вашы сілы на зыходзе – кепскі настрой. Вас будзе многае раздражняць, захочацца ўсё перайначыць. І вы самі разумееце, што ў такім настроі раздражняеце блізкіх.

**ЦЯЛЕЦ.** Калі вам патрэбны адпачынак, вы становіцеся напружанымі і сарамлівымі. Вас становіцца складана заахвоціць нават любімай справай. Часам хапае нават некалькіх дзён, каб прыйсці ў нармальны стан.

**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы ператамляецеся, то перастаеце добра харчавацца і не высыпаецеся. Нават звычайныя размовы могуць быць для вас складанымі. У такім выпадку вам трэба пабыць у цішыні сам-насам.

**РАК.** Калі Раку патрэбны адпачынак, ён становіцца празмерна эмацыйным і можа пачаць плакаць з любой нагоды. Не трэба спрабаваць разабрацца ў прычынах стану, неабходна проста даць адпачыць.

**ЛЕЎ.** Калі вы пачынаеце перапрацоўваць, то губляеце канцэнтрацыю і доўга не можаце зразумець сутнасць размовы. Як толькі заўважылі ў сабе такія прыкметы, адразу шукайце магчымасць, каб вы маглі расслабіцца і адпачыць.

**ДЗЕВА.** Вам складана спыніцца і не аналізаваць усё, што навокал. Сон становіцца паверхневым, і вы не можаце адпачыць нават падчас сну. Вызваліце сябе ад нагрузкі і ізалюйце ад лішніх кантактаў. Дайце мозгу разгрузіцца.

**ШАЛІ.** Калі вы не можаце спыніцца ў падтрымцы кантактаў з сябрамі і маніторынгу сацыяльных сетак, падобна, вам неабходна сябе спыніць прымусова. Дайце сабе адпачынак ад усяго.

**СКАРПІЁН.** Калі вы стаміліся, то пачынаеце пазбягаць размоў і кантактаў з усімі. Калі не рэагуеце на званкі і адмяняеце планы, значыць, вы стаміліся вельмі моцна.

**СТРАЛЕЦ.** Вам становіцца складана прымаць нават самыя простыя рашэнні. Як бы ні рыхтаваліся, складана сфармуляваць адказы на любыя пытанні, і проста не хочацца нават размаўляць.

**КАЗЯРОГ.** Як толькі вы заўважылі, што пачынаеце расстройвацца па самых неістотных дробязях, падумайце, ці не стала прычынайператамленне.

**ВАДАЛЕЙ.** Вам пачынаюць балець галава і жывот. Калі яшчэ і апетыт губляеце, то дакладна трэба адпачыць. Пачніце з расслаблення.

**РЫБЫ.** Вы стараецеся залегчы на дно і схавацца там, каб вас ніхто не чапаў. Вы пазбягаеце ўвагі і нават нязначных размоў. Вам проста абавязкова патрэбны адпачынак.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | 4 | | 7 | | | |
| | | | 8 | | | 7 | 1 | |
| | 2 | | 5 | 1 | 6 | | | |
| | 3 | 8 | | | | 6 | 9 | |
| | | 9 | | | | 3 | | 5 |
| 6 | | | | | 9 | | 2 | |
| | 5 | | 2 | | 4 | 1 | | |
| 9 | 4 | | | 3 | | | | |
| 7 | | 2 | | 5 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

# Ладзілі конкурс малюнкаў на асфальце

## Глядзіце, што малявалі пераможцы

ВІЛЕЙКА

**Ад 1 да 4 чэрвеня на Вілейшчыне ладзілі дыстанцыйны раённы конкурс малюнкаў на асфальце.**

Ён называўся «Цудоўная планета дзяцінства» і быў прысвечаны Міжнароднаму дню абароны дзяцей.

У конкурсе паўдзельнічалі вучні з 13 гімназій і школ Вілейшчыны, паведамляюць на ўпраўленні па адукацыі, спорце і турызму Вілейскага райвыканкама. Пасля падліку галасоў у сацыяльнай сетцы «УКантакце» пераможцамі сталі:

1 месца – творчая група вілейскай сярэдняй школы №3. Назва работы «Круціцца дзяцінства карусель» – 348 галасоў.

2 месца – **Паліна Багуцкая, Дар'я Бандарэнка, Арцём Беляўцоў**, вучні вілейскай сярэдняй школы №5. Назва работы «Шчаслівае дзяцінства» – 295 галасоў.

3 месца – **Ілона Бауліна, Крысціна Давідовіч, Юлія Субач**, вучаніцы вілейскай гімназіі №2. Назва работы «Планета дзяцінства» – 123 галасы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота vileyka-edu.gov.by.

Малюнак вучняў вілейскай школы №3.

## Чытайце праз тыдзень:

- **ФК «Ашмяны-БДУФК» напрыканцы мая падпісаў кантракт з двума кіберспартсменамі. Разбіраемся, што такое кіберспорт і чаму ўсё больш беларускіх прафесійных клубаў пачынаюць фінансаваць кіберспартсменаў.**

## 13 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўночна-усходні, 6-7 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +5,6°С у 1991 годзе
Максімальная тэмпература +32,8°С у 2019 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,5 мм у 2012 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Ідзе падпіска на 2-е паўгоддзе!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек,
- на паўгоддзе – 29 рублёў 76 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў,
- на паўгоддзе – 96 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці пойдзеце гэтым летам у адпачынак і што будзеце ў ім рабіць?



**Марына Бабровіч, майстар вытворчага навучання, Чысць:**

– Я цяпер у дэкрэтным адпачынку, але мы некалькі разоў на лета ўсёй сям'ёй ездзім з палаткамі на Вілейскае вадасховішча і ў вёску да бабулі. Будзем адпачываць вось так.



**Вольга Кулёнак, настаўнік-дэфектолаг, Маладзечна:**

– У нас ужо адпачынак, але ён будзе толькі ў Беларусі. А ўвосень, спадзяёмся, на мора з'ехаць.



**Леанід Мароз, пенсіянер, Даўгінава, Вілейскі раён:**

– У адпачынак не атрымліваецца, трэба працаваць за сябе і за таго дзядзьку.



**Наталля Жызнеўская, загадчык Дома культуры, Валожын:**

– Я цяпер знаходжуся ў чарговым працоўным адпачынку. Жыву ў вёсцы, а тут самы найлепшы адпачынак!



**Вольга Балцэвіч, прадпрымальнік, Вілейка:**

– Пойдзем адпачываць з сябрамі на Вілейскае вадасховішча з палаткамі на два тыдні.



**Валер Вяльможын, працуе ў мэблевым бізнесе, Маладзечна:**

– На гэтым тыдні сыходжу ў адпачынак, але ўсё роўна буду працаваць.



**Марына Пятрага, гаспадыня, Вілейка:**

– Збіраемся ў гэтыя выхадныя ўсёй сям'ёй на Нарач у паход з палаткай, калі надвор'е не падвядзе. Купілі мячык, ракеткі, возьмем розныя гульні з сабой, матрац, плануем адпачыць усёй сям'ёй.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№24 (1311) 12.06.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 974. Падпісана ў друк у 9.00 11.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.